


# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 34 (347) 5 — 11 верасня 1998 г. КОШТ 3500 РУБЛЁЎ

ДЫСКУТУЕ • ПРЭЗЕНТУЕ • РАЗВАЖАЕ •

*Падпіска на "Культуру" прымаецца да 10 дня перадпадпіснога месяца.*

# ПІСЬМЕННАСЦЬ — ГЭТА НАША...

***Беларуская пісьменнасць... Беларускае пісьменства... Ґлыбока ў стагоддзі, у сівую мінуўшчыну ідзе яно сваімі каранямі. І таму гэтак цікава зазірнуць у тыя гады, прасякнуцца тым часам, бо наша пісьменства адлюстроўвае ўсе сферы чалавечай дзейнасці ў пэўныя гістарычныя эпохі, і найважнейшымі з гэтых сфераў з'яўляюцца справаводства, культура, навука, рэлігія.***

**Менавіта гэта адзначылі на прэс-канферэнцыі старшыня Дзяржаўнага камітэта па друку Міхаіл Падгайны і ягоны намеснік, старшыня аргкамітэта "Дня беларускай пісьменнасці" ў горадзе Оршы Зіновій Прыгодзіч. Орша — горад Беларусі, які сёлета з гонарам нясе "цяжар" свята беларускай пісменнасці, памяці славутага першадрукара, вучонага, настаўніка і культурнага дзеяча, перакладчыка і пісьменніка эпохі Адраджэння Францішка Скарыны.**

**Дзень пісьменнасці ў Оршы. Узгадваюцца асабістыя сустрэчы з аршанцам Уладзімірам Караткевічам, непасрэдным спадкаемцам Скарыны ў самай чалавечай галіне — моўных зносінах, моўнай культуры. У розныя часы і ў розныя гады гутарылі мы з Уладзімірам Сямёнавічам пра цяжкі лёс беларускай мовы, неаддзельны ад лёсу ягонага носьбіта — беларускага народа.**

**Я не выпадкова кажу пра Караткевіча, нашага з вамі сучасніка, бо ў ягонай пісьменніцкай дзейнасці, напэўна, як ні ў каго, гучаць скарынаўскія матывы высокай грамадзянскасці і сыноўняга болю за беларускі народ.**

**Лёс народа — лёс мовы — лёс пісьменніка...**

**Беларусь — Скарына — Караткевіч — мы...**

**Міхаіл Падгайны паведаміў, што ў Оршы будзе адкрыты музей Уладзіміра Караткевіча і мемарыяльная дошка ў гонар друкара і асветніка Спірыдона Собаля.**

**Удзячная беларуская зямля памятае пра тых, хто вучыў яе размаўляць на роднай мове, спяваць свае песні і складаць гімны пры жыццё, каханне і волю.**

**Валерый ШЫХАНЦОЎ**



*Шарж Святланы Калінінай. Рыга. 7.12.76.*




*Гравюра з Трэцяй кнігі царстваў (Прага, 1518).*

## Для Куцейны і для Оршы верш пішу ў дзень харошы



**Сяргей ПАНІЗЬНІК**

*Зерні-словы — наша збожжа.*
*Будзь жа ўраджайнай, Орша!*
*Зорны Полацак — браценнік*
*твой, Куцейна.*

*Нам пісьмёны не за грошы*
*зберагалі продкі, Орша.*
*Каб жа гэтак папацелі*
*мы, Куцейна...*

*З кнігаю жылі прыгожа.*
*Буквары гартала Орша.*
*Багацела дабрадзейна*
*ты, Куцейна.*

*Пасвятлеў манах аброслы.*
*Доўга разумнеем, Орша.*
*Будзе Беларусь вясельнай?*
*А Куцейна*

*яшчэ выпрастаецца? Зможа?*
*Засявай духоўнасць, Орша!*
*Кліч да храма абнадзейна*
*нас, Куцейна!*

На здымках з архіва аўтара: ілюстрацыі са старадрукаў Куцеінскага Богаяўленскага манастыра пад Оршаю — "Евангеліст Матвей", "Евангеліст Марка".



**Калонка "пра набалелае"**

## "... НЕ ТОЛИКО ЖИВ ЕСТ ЧЕЛОВЕК ХЛЕБОМ ИЛИ ЛЕКАРСТВОМ НО БОЛЕ ВСЯКИМ СЛОВОМ..."



*"Избрал оставити в науце и в книгах вечную славу и память свою..."*

*"Звери, ходящие в пустыни, знают ямы своя; птицы, летающие по воздуху, ведают гнезда своя; рыбы, плывущие по морю и в реках, чуют виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих. Тако ж и люди, игде зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имають".*

*"Да совершен будет человек..."*

*"Пожиточьны же суть сие книгы чести всякому человеку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболей тым, они же хотять имети добрые обычаи и познати мудрость и науку..."*

*"... по кажном чтении новаго нечто научишися..."*

*"... в розмаитых речах люди на свете покладают мысли и кохания своя".*

*"Закон прироженый в том наболей соблюдаем бывает: то чинити иным всем, что самому любо ест от иных всех, и того не чинити иным, чего сам не хощеши от иных имети... Сей закон прироженый написан ест у серци единого кажного человека".*

*"... каждый человек имат некоторую речь пред собою в ней же ся наболей кохает и о ней мыслит".*

*"Без мудрости и без добрых обычаев не ест мощно почстиве жити людем посполите на земли..."*

*"...Умети язык свой справовати, от него же все злые и добрые речи походять".*

*"Детям малым як початок всякое доброе науки грамоты, еже добры чести и мовить учит".*

*"Найболей любовь ко всим да соблюдает, еже ест совершена над все иные дарования, без нея же ничто поспешно ест".*

*"... не толико словом, але и делом..."*

*"Ест наивышшая мудрость размышление смерти и познание самого себе".*

*"Не просил еси собе дней многых, ни богатства, ниже душ врагов твоих, но жадал еси собе мудрости..."*

*"... в добрых делах и в любви отчины не толико жены, но и мужи наследовали и всякого тружания и скарбов для посполитого доброго и для отчины своея не лютовали".*

*"И всякому человеку потребна чести, понеже ест зерцало жития нашего, лекарство душевное, потеха всем смутным, наболей тым, они же суть в бедах и в немощах положены, надежа истинная..."*

Я — Франциишек Скоринин сын с Полоцка града, в лекарских науках доктор

# КАЛІ НІХТО

***Псіхалагічная дапамога... Апошнія гады гэты тэрмін трывала ўвайшоў у наша жыццё, а наведванне псіхолага пакрысе становіцца такой жа прывычнай справай, як паход да стаматолага. Праўда, не для ўсіх. У адрозненне ад дарослых, дзеці і падлеткі, якія найбольш схільныя да псіхічных зрываў, не спяшаюцца давяраць свой душэўны верад "лекарам душ чалавечых", не вераць, што нехта іншы, апроч іх саміх, здольны вырашыць іх праблемы. А мо і таму, што адпаведных спецыялістаў у нас не так і шмат, нават "тэлефон даверу" арыентаваны перш за ўсё на людзей сталага ўзросту... У выніку, як правіла, маладыя людзі аказваюцца заложнікамі "тупіковых" сітуацый, выйсце з якіх нярэдка бачаць у самагубстве... Месяц таму сталічныя ўлады прапанавалі сваім юным грамадзянам больш дзейсны спосаб вырашэння набалелых праблем: у Мінску створаны "тэлефон даверу для дзяцей і падлеткаў" — 215-00-00. Варта адзначыць, што падобныя службы ўжо даўно існуюць у заходніх краінах і на практыцы сцвярджаюць сваю эфектыўнасць. Нарэшце дайшло і да нас. Як кажуць, лепш пазней, чым ніколі. Пра дзейнасць новастворанага "тэлефона даверу" расказвае яго кіраўнік, псіхолаг Святлана ЕРАМЕЙЦАВА.***

— Не сакрэт, што ў Мінску амаль 15 гадоў існуе "тэлефон даверу" для людзей усіх узроставых катэгорый, у якіх узнікаюць пэўныя псіхалагічныя праблемы. Але дапамога маленькім нашым грамадзянам, асабліва падлеткам, патрабуе спецыяльнай прафесійнай падрыхтоўкі. Бо праблемы, з якімі звяртаюцца яны, не заўсёды бываюць зразумелыя звычайнаму кансультанту "тэлефона даверу". Тут патрэбны пэўны душэўны, эмацыянальны настрой, веданне маладзёжнай, дзіцячай субкультуры і, галоўнае, веданне псіхалогіі асобных узростаў, каб наша дапамога адпавядала запатрабаванням, якія нам ставяць, каб мы не былі падобнымі да настаўнікаў, якія вучаць жыццю, а маглі ўнікнуць у сітуацыю менавіта з пункту гледжання самога дзіцяці, падлетка.

Трэба сказаць, што такая і сусветная практыка. "Тэлефоны даверу", іншыя "гарачыя лініі" паступова пачынаюць спецыялізавацца: ёсць "лінія" антыСНІДу, дапамогі жанчынам, якія перанеслі згвалтаванне, асобна — для дзяцей, дарослых і г.д.

**— Радуе, што такая служба з'явілася нарэшце і ў нас. Аднак ці не падобна гэта на адчайную спробу неяк выправіць тое пагрозлівае становішча, у якім апынуліся сёння маладыя неўзмацнелыя душы? З'явіся ваш "тэлефон даверу" гадоў пяць таму, пэўна ж, многім удалося б пазбегнуць неабдуманых імпульсіўных крокаў, а нярэдка і пагібельных памылак.**

— Канешне. З кожным годам назіраецца рост нервова-псіхалагічнай паталогіі сярод дзяцей і падлеткаў, павялічваюцца так званыя пагранічныя захворванні (неўрозы, іншыя парушэнні псіхікі, асабліва ў пераходным узросце), якія прыводзяць да дэпрэсіі. У мінулым годзе толькі ў Мінску дзеці і падлеткі зрабілі 162 суіцыдальныя "спробы". 4 з іх скончыліся смерцю.

Безумоўна, гэтай праблеме і раней удзялялася ўвага, але не на належным узроўні. Проста не хапала прафесійных псіхолагаў. З гэтай прычыны "запазніўся" і "тэлефон даверу". Варта таксама заўважыць, што зараз стаўкі псіхолагаў уводзяцца ва ўсіх дзіцячых паліклініках, садках, ужо ўведзены ў дзіцячападлеткавым псіханеўралагічным дыспансеры, школах, ствараюцца цэнтры псіхалагічнай дапамогі дзецям.

**— Святлана Міхайлаўна, ваш тэлефон**



# МОЙ АДРАС — НЕ ДОМ

***Афіцыйна ў Баранавічах зарэгістравана 135 прытонаў. Можна сказаць — у нашым горадзе існуе цэлая краіна. Са сваімі жыхарамі і законамі — Прытонія.***

***"Прытон — месца, дзе тайна збіраюцца са злачыннымі або непрыстойнымі мэтамі" (Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы пад рэдакцыяй М.Судніка). "Месца, якое прадастаўляецца для ўжывання спіртных напояў, наркотыкаў і зводніцтва з мэтай нажывы", — так вызначае Крымінальны кодэкс. Артыкул 221, частка 2-я КК РБ прадугледжвае пакаранне за арганізацыю або ўтрыманне прытона ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін да пяці гадоў.***

***Але за апошнія гады ў нашым горадзе да адказнасці па гэтым артыкуле не прыцягнуты ніхто. Таму што вельмі цяжка ўстанавіць факт атрымання грошай са сваіх наведвальнікаў гаспадарамі такіх кватэр. Многія грошай і не бяруць — проста так, за бутэльку.***

### СТЫЛЬ ЖЫЦЦЯ — ПРЫТОН

У гарадскіх прытонах Баранавічаў пачаўся сезон рамонту. У гэтым мы пераканаліся, наведаўшы іх асабіста. Прытоны падобныя адзін да аднаго — і мэбля, і пах, і самі жыхары — жыхары дна. На шляху ўніз многім спадарожнічала п'янства, некаторым — наркотыкі, а хтосьці там нарадзіўся і вырас. Для некаторых прытон — стыль жыцця.

Гаспадары прытонаў, якіх нам давялося пабачыць — не жабракі. Усе маюць сродкі да існавання — пенсію, грашовую дапамогу, зарплату. Не бамжы. Але сваю законную жылую плошчу ператварылі ў жудасныя логавы з павуціннем, ніколі не мытым посудам, бруднай бялізнай. Калі яна яшчэ засталася.

Уваходныя дзверы, звычай, завешаныя кавалкам тканіны. Смецце ніхто не выносіць. Паўсюль раскіданы гнілыя рэшткі ежы. Але бутэлек няма. Нам было вельмі цяжка знаходзіцца там. Асабліва з прычыны рэзкага, устойлівага, усюдыіснага смуроду, ад якога цягне на ваніты. Пах прытона.

Паводле словаў нашых спадарожнікаў-міліцыянераў, прытон пазнаць лёгка па паху і стану ўваходных дзвярэй: "Падыходзіш да іх — і можна вызначыць, хто тут жыве". Само сабой узнікла пытанне: ці мыюцца жыхары прытонаў? Але мы палічылі гэтае пытанне няёмкім.

Адны кажуць, што мы б жылі лепей, калі б болей было грошай, другія — была б добрая кватэра, трэціх задавальняе такое становішча.

Умовы жыцця ў прытонах з'яўляюцца не толькі крыніцай інфекцыйных захворванняў, але і значна больш страшных — сацыяльных хваробаў. Наркотыкі ўжываюць — там. Скрадзеныя рэчы прапіваюць — там. Венерычныя хваробы набываюць — там. Скандалы і п'яныя бойкі з калецтвамі і, часам, з летальным вынікам, — таксама там.

Усё гэта, дарэчы, адбываецца на вачах у дзяцей. Праўда, цяпер, у цёплы час, дзеці звычайна бадзяюцца па вуліцах. І ў саміх прытонах пакуль ціха. Выпіць можна і пад кустом. З'явіліся дадатковыя магчымасці для заробку — сабраць і прадаць грыбы, ягады, ураджай з чужога агарода або саду. Многія заняліся рамонтам.

Прыйдзе зіма, і ў прытонах пачнецца сезон пагулянак.

Нашымі гідамі-праваднікамі па "дну грамадства" былі супрацоўнікі інспекцыі па справах непаўналетніх гарадскога аддзела ўнутраных спраў А.Малафей і А.Ажэль.

Умовы пражывання ў Прытоніі не вельмі разнастайныя. Аднолькавы бруд, смецце, пахі. Самі прытонцы падобныя адзін да аднаго: нямытыя, калматыя, адзенне, што страціла свой першасны выгляд, у вачах — пустата. Як кажуць у міліцыі, дакладнымі прыкметамі прытона з'яўляецца пастаянная прысутнасць чужых людзей, лаянка, грукат, п'яныя твары. Выявіць яго нескладана: суседзі заўсёды паведамяць у міліцыю. Але ёсць прытоны іншага кшталту. Там чыста і ціха. Чым займаюцца іхнія жыхары, можна толькі здагадвацца. Але нашая размова не пра іх.

Мы хочам распавесці пра яўныя прытоны, з усёй уласцівай ім атрыбутыкай. Пра тыя, якія з'яўляюцца прадметам пастаяннага нагляду ўчастковых міліцыянераў. Дарэчы, сваіх "падапечных" участковыя ведаюць па імені. Будучых "прытонцаў", як і бамжоў, паводле словаў А.Малафея, бачна з дзяцінства. Яны пастаянна вандруюць. Нямытых і брудных, іх здымаюць з цягнікоў. Уцякаюць не таму, што кепска. Хіба на вакзалах і ў падваротнях лепей, чым дома? Сеўды паехаў без усялякай мэты. Абы швэндацца. Вось такое яно, юнацтва прытонца. А дарослыя, безумоўна, больш па хатах сядзяць — у іх свае занятк.

### НАПЛЯВАЦЬ!

Драўляная хаціна нібыта правалілася ў зямлю. Бруднае шкло не прапускае ўсярэдзіну дзённае святло. Нізкія дзверы прымушаюць нахіляцца пры ўваходзе. Задушлівае паветра не дазваляе доўга знаходзіцца ў маленькім цёмным памяшканні, што нагадвае, хутчэй, хлеў, чым чалавечае жыллё. Каля кухоннага стала стаяла напалоханая гаспадыня, узрост якой цяжка вызначыць. А ў куце пакоя, на кучы бруднага рыззя ляжала істота няпэўнага полу. "Тут заўсёды хто-небудзь ляжыць", — сказалі нам нашыя гіды. За сталом сядзеў хлопчык, на выгляд каля 13 — 14 гадоў. На самай справе па-

# НЕ РАЗУМЕЕ...

**працуе кругласутачна і без выхадных. Напэўна, гэта вымагае вялікай аддачы ад кансультантаў-псіхолагаў, якія таксама людзі, з уласнымі праблемамі?**

— Так, праца на "тэлефоне даверу" патрабуе агромністага душэўнага напружання, самааддачы і псіхічных затрат, пастаяннай гатоўнасці выслухаць, суперажыць, даць адказы на самыя непрадказальныя пытанні. А ўвесь час знаходзіцца ў тонусе вельмі цяжка. У нас працуе 15 псіхолагаў, і кожнаму мы даём магчымасць самому вырашаць, якую нагрузку ён можа вытрымаць. Зазвычай адно дзяжурства працягваецца 12 гадзін.

У далейшым плануем далучаць і ўрачоў-псіхатэрапеўтаў, бо падчас гутарак узнікае шмат спецыфічных пытанняў, якія цалкам знаходзяцца ў іх кампетэнцыі.

**— Якога ўзросту маладыя людзі і з якімі праблемамі да вас звяртаюцца часцей за ўсё?**

— Праблемы ўзаемаадносінаў — хлопчыкаў з дзяўчынкамі, юнакоў з дзяўчатамі, дзяцей з бацькамі. Чалавек любога ўзросту, тым больш маладога, хоча быць любімым, адчуваць сябе акружаным увагай і пяшчотай, хоча быць патрэбным, атрымліваць станоўчы водгук з боку сваіх сваякоў і знаёмых. Таксама — адсутнасць узаемаразумення. Многія з дзяцей фармулююць гэта як "мяне не разумеюць". Аднак у гэта значэнне ўкладваюць усю сваю незадаволенасць навакольным светам. Яны хочуць, каб іх спадзяванні заўсёды здзяйсняліся. Але такога не бывае. Адсюль — гора, крыўда, страх, адчуванне безвыходнасці.

Што да ўзросту тэлефануючых, то ён не мае асаблівага значэння. Тэлефануюць і бацькі сваіх "праблемных" дзяцей, і нават бабулі і дзядулі. А самаму малодшаму нашаму суразмоўцу было сем гадкоў. Бацькі паехалі на лецішча, ён застаўся адзін дома, і якраз пачалася навальніца. Яму было страшна і ён папрасіў нас прыехаць...

**— Дарэчы, у вас практыкуюцца выезды?**

— На жаль, не. Аднак, калі мы бачым, што неабходны стацыянарны кантакт з псіхолагам, прапануем дзіцяці прыйсці на кансультацыю. У надзвычайных выпадках выклікаем "хуткую дапамогу". Дакладней, стараемся пераканаць урачоў "хуткай" у неабходнасці выезду. Часам гэта ўдаецца, іншы раз — не. Бо ўрачы патрабуюць ад нас гарантыі (якія мы ім даць не можам) таго, што гэта не падманны выклік. Маё глыбокае перакананне, што лепш лішні раз з'ездзіць, чым упусціць момант, калі ты мог выратаваць чалавека, калі не даў яму зрабіць нейкую непапраўную памылку, але не скарыстаў свой шанец. Зараз пытанне аб безагаворачным выездзе "хуткай" па нашаму запыту разглядаецца ў Міністэрстве аховы здароўя. Спадзяюся, што атрымаем станоўчы адказ.

Варта дадаць, што яшчэ мы наладжваем кантакты з разнастайнымі сацыяльнымі службамі, у прыватнасці, арганізацыямі па абароне правоў жанчын і дзяцей, іншымі цэнтрамі, дзе гутаркі паміж псіхолагамі і тымі, хто мае патрэбу ў іх дапамозе, адбываюцца пры непасрэдным кантакце. І неўзабаве наш "тэлефон даверу" стане тым сувязным звяном, якое з максімальнай хуткасцю будзе не толькі даваць псіхалагічную кансультацыю, але і інфармацыю аб тым, куды можа вочна звярнуцца з той ці іншай жыццёвай праблемай.

**— "Тэлефон даверу для дзяцей і падлеткаў" працуе ўжо месяц. Самы час падвесці першыя вынікі.**

— Нягледзячы на малы тэрмін, наша служба не аказалася незаўважанай — і гэта пры адсутнасці рэкламы. На сённяшні дзень мы атрымалі больш за 300 званкоў, і літаральна штодзень іх колькасць павялічваецца. Таму ў хуткім часе плануем адкрыць яшчэ адзін тэлефонны канал. Ясна адно — наш "тэлефон даверу" патрэбен многім, гэта — галоўнае.

**Гутарыў Алесь ФІЛІПОВІЧ**

# І НЕ ВУЛІЦА

водле ўзросту яму час ісці ў войска.

Тут жыве сям'я: муж, жонка і два сыны. Цяжка сказаць, ці вучацца дзеці ў школе, ці працуюць бацькі. Сцвярджаць можна толькі адно: асноўны сэнс іхняга жыцця — алкаголь. На ўсё астатняе ім напляваць. Нават на ўласнае здароўе. У гаспадыні ў нізе жывата — велізарная кіла. Лячыцца няма калі.

Цяжка паверыць, што людзі самі стварылі сабе такія ўмовы жыцця. Знаходзячыся там, мы баяліся дакрануцца да чаго-небудзь. Невядомая жамяра лезла з кожнай шчыліны. Пачуццё агіды і грэблівасці выклікала ўсё — і жыллё, і людзі.

І гэта мы назіралі не на ўскрайку горада, а ў самым цэнтры, насупраць самага дарагога рэстарана.

### FINITA LA COMEDIA

Паўднёвы мікрараён. Шматкватэрны дом. Першы паверх. Падзёртыя дзверы без ручак і замкоў. Рэзкі пах мачы. Бруд. Змрок. У пакоі стол, завалены смеццем. Дзве сталага веку жанчыны вядуць п'яную гутарку. Гаспадыня кватэры, грамадзянка М., 1921 года нараджэння, інвалід першай групы — адсутнічаюць абедзве нагі, няма вока. Сама яна не можа трапіць у прыбіральню, таму побач стаіць пасудзіна. Але калі п'яная... Размаўляючы з намі, яна час ад часу сплёўвала ў слоік. "Глядзіце, якая я хворая!" Даглядаць яе няма каму: дачка і трое ўнукаў у турме. Зрэдку наведвае сын. Уся яе кампанія — алкагалічка-інвалід. "Лепей бы мяне забілі", — заплакала гаспадыня. Паводле яе словаў, яна два гады ляжала ў шпіталі, а за гэты час яе дзеці і ўнукі ператварылі добрую кватэру ў прытон.

Але, як нам распавёў участковы, усё жыццё яна піла. Піла сама і прывучала да п'янства сваіх дзяцей. У выніку — пакалечаныя лёсы некалькіх пакаленняў. Фінал такога жыцця заканамерны — яна засталася адна, бездапаможная, нікому не патрэбная. Акрамя сабутэльнікаў, якія прыходзяць час ад часу.

Шматгадовае п'янства знявечыла не толькі лёс, але і знешнасць. Замест сівой бабулькі з пруткамі ў руках, абкружанай унукамі, перад намі сядзела худая старая з сінім тварам, а кватэра нагадвала клааку.

Але далёка не ўсе прытонцы — бездапаможныя алкаголікі. Былі мы і ў такіх дамах, дзе гаспадары маюць працу, дзеці вучацца ў школе. Але ўмовы жыцця такія ж агідныя. Толькі не таму, што не могуць, а проста не хочуць жыць па-чалавечы. Напрыклад, гаспадары аднаго з дамоў па вуліцы Шапэна гатуюць ежу на вогнішчы, што запальваюць у доме. А побач з імправізаваным ачагом вядро, якое выкарыстоўваюць у якасці прыбіральні. Пад нагамі — бульбяное шалупінне, хлебныя скарынкі.

### У АГНІ НЕ ГАРЫЦЬ, У ВАДЗЕ НЕ ТОНЕ

Каб трапіць у Прытонію, не трэба далёка ехаць. Мы былі там толькі мімаходзь, як турысты. А хтосьці мае там пастаянную прапіску. Зваротнага шляху ў іх ужо няма. Але мы не хочам, заходзячы ў пад'езды нашых дамоў, сутыкацца твар у твар з прытонцамі. Не хочам жыць з імі побач, назіраючы п'яныя бойкі і дэбошы. Не хочам зрабіцца іхняй выпадковай ахвярай: быць напалоханымі, збітымі, згвалтаванымі.

Чым закон можа нас абараніць? Зразумела, што на працягу свайго жыцця прытонцы неаднаразова трапляюць у месцы пазбаўлення волі. На змену ім прыходзяць іншыя. Прытон як з'ява невынішчальны. У нашых умовах. Санэпідэмстанцыя можа накласці на іх штраф за антысанітарныя ўмовы пражывання. Але што гэта зменіць? Міліцыя для іх — нянька і выхавацельніца. Можа прыехаць па сігналу суседзяў і спыніць п'янку. На пэўны час. Але прытон застаецца. Гаспадары вернуцца. Зноў збяруцца "госці". Пуцёвак у лячэбна-працоўны прафілакторый на ўсіх не хопіць. А жанчын-алкагалічак увогуле няма куды падзець. У краіне няма ніводнага жаночага ЛПП. Дзеці прытонцаў, зазвычай, жывуць у інтэрнатах і дзіцячых дамах. Але потым яны вернуцца дахаты — больш няма куды.

**Наталля КЛЕНІНА**
**Марына КУЛІКОВА**
*Баранавічы*

**P.S.** Выказваем удзячнасць супрацоўнікам Баранавіцкага ГАУС за дапамогу ў арганізацыі матэрыялу.

# І СВЯТА ГОРАДА, І СВЯТА ГАРАДЖАН

"Шахцёры выйшлі з забояў, каб як след адзначыць сваё прафесійнае свята".

Па дарозе ў Салігорск я, прызнаюся, думала, што менавіта такім доўгім, стандартным і нудным будзе загаловак гэтага артыкула. Баялася, што такімі ж, мякка кажучы, нецікавымі, будуць і мерапрыемствы двух апошніх выхадных дзён лета. Я памылілася, мерапрыемстваў у гэтыя дні не было. Было свята, свята горада.

Чаму яно супала з Днём шахцёра? Логіка і арыфметыка тут даволі простыя: сярод стотысячнага насельніцтва горада кожны пяты чалавек — шахцёр. А гэта значыць, што літаральна ў кожнай сям'і ёсць хаця б адзін ча-





лавек, для якога Дзень шахцёра — прафесійнае свята. Вось і атрымліваецца, што дзень гэты святкуе ўвесь горад.

Зрэшты, калі быць дакладнай, сорак гадоў таму горад пачаў расці проста пасярод поля. Жыццё Салігорску дала калійная соль. Знайшоўшы тут крышталі солі, вучоныя ў адзін голас сказалі, што новае радовішча — адно з буйнейшых у Еўропе. Так і ўзнік у Беларусі свой шахцёрскі пасёлак, які за сорак гадоў ператварыўся ў цудоўны горад.

На вуліцы ў гэтыя дні не выйшлі толькі лянівыя, а такіх у горадзе, чыімі першымі жыхарамі былі юнакі і дзяўчаты з будаўнічых атрадаў, думаю, не было. Далей усё проста: столькі цікавага было ва ўсіх кутках горада, што сумаваць не было часу.

Скажу шчыра, святу гэтаму маглі б пазайздросціць нават мінчане, бо, параўноўваючы сталічныя "гулянні" з салігорскімі, я асабіста аддаю перавагу апошнім. У Салігорску было тое, чаго часта не стае іншым святам — жаданасці. Хтосьці запярэчыць, што гэта не так, што мінчане таксама кожны год чакаюць свята свайго горада. Але чакаць свята і жадаць яго — розныя рэчы. Ніколі не будзе такога, што нехта прыйдзе і скажа: "Вось табе свята, весяліся". Як не прыкра, але сталічным "спажыўцам" варта ўсвядоміць, што з нічога і вырастае нічога. Таму і звяртаеш увагу на дробныя, здавалася б, акалічнасці.

Успамінаю, як напярэдадні 930-гадовага юбілею Мінска ў тэрміновым парадку гарадскія службы падрамантавалі, падчысцілі цэнтральныя вуліцы, плошчы, падфарбавалі фасады дамоў. Многія тады іранізавалі, што з боку вуліцы дамы нібыта падноўленыя, а варта зірнуць на іх з двара — нічога не змянілася. Іншая справа ў Салігорску. Чысціня панавала не толькі на галоўных вуліцах, а і ў самых аддаленых дварах. Магчыма таму, што жыхары горада самі паклапаціліся пра чысціню, а не чакалі, калі ж з'явіцца начальства і аддасць загад. Вядома ж, жыхары чакалі прыезду кіраўнікоў дзяржавы. Аднак, думаю, не па гэтай прычыне яны ўласнымі сіламі адрамантавалі дзіцячыя пляцоўкі, пафарбавалі пад'езды. Як сказала мэр горада Ганна Лаўрукевіч, кожная гаспадыня перад святам імкнецца прыбраць свой дом. Навошта ж замятаць смецце пад ложкі, "хаваць" бруд у дварах і завулках? Бо тое, як прыбраны дом, двор, горад, можа шмат сказаць і пра тое, хто тут сапраўдны гаспадар, і пра тое, наколькі ён гаспадарлівы.

Зоркі расійскай эстрады не ззялі ў Салігорску. І не таму, што іх запрашэнне каштуе не танна. Практычны розум салігарчан падказаў, што няма ніякай патрэбы клікаць "суседзяў", якія за вялікія грошы павесялілі б шахцёраў. Іншая справа — госці, і ў Салігорску іх было шмат, у тым ліку з Польшчы, Германіі, Швейцарыі, Англіі і г.д. Бо як жа не паклікаць на свята ўсіх тых, з кім працуеш, сябруеш. А на сённяшні дзень вытворчае аб'яднанне "Беларуськалій" пастаўляе сваю прадукцыю больш, чым у 50 краін свету, і мае за яе міжнародную "Залатую зорку якасці", "Брыльянтавую зорку якасці", прыз "Арка Еўропы якасці і дасканаласці". Гэта, згадзіцеся, нямалы поспех і прызнанне.

А хто ж весяліў салігарчан? Падчас свята не было "забаўляльнікаў" і гледачоў. Спявалі, танчылі ўсе, у поўным сэнсе гэтага слова. Кожнае прадпрыемства і аб'яднанне, школа і дзіцячы садок лічылі за гонар прыняць удзел у канцэртах, спаборніцтвах. Дзеці дэманстравалі бацькам моду і прычоскі будучыні, уласныя малюнкі, скульптуры з пяску. Шахцёры-мужчыны (зрэшты, не толькі шахцёры і не толькі мужчыны) маглі паказаць сваю сілу, спрыт — шырокая спартыўная праграма свята гэта дазваляла. Ну, а жанчыны: сёстры, жонкі, матулі спявалі, танчылі, здзіўлялі ўсіх сваім кулінарным майстэрствам. Менавіта ў той момант, калі салігарчане дарылі адзін аднаму ўсмешкі, песні, і ўзнікала адчуванне свята. Бо, як гаворыць мудрая прымаўка, дарыць падарункі нашмат прыемней, чым атрымліваць. Таму ўсе і імкнуліся падарыць тое, чым багатыя, сваім суседзям, калегам, сябрам.

Усе жыхары горада спяшаліся на вуліцу Леніна. Абапал дарогі не было ніводнага месца, дзе не было б кветак. Кружылася галава і разбягаліся вочы ад таго, што ты знаходзішся на "Балі кветак". Хацелася разгледзець і запомніць усё: кожную кветачку, лісток, кожны букет. Штучныя кветкі спрачаліся ў прыгажосці з жывымі, а іх гаспадары — у майстэрстве кампазіцыі. Незразумела, як журы змагло выбраць пераможцаў?

Зноў і зноў напрошваецца ў мяне параўнанне з Мінскам. Уявіце сабе, што і ў нас адбудзецца такі "Баль кветак". Па прыкладу салігарчан, на вуліцы выйдуць прыватныя прадпрымальнікі, калекцыянеры рэдкіх і экзатычных кветак, а побач з імі — простыя кветкаводы-аматары. Яны прадэманструюць і прыгажосць сваіх кветак, і свой густ у афармленні букетаў, стварэнні кампазіцый. Думаю, у кветках патануў бы не толькі праспект Машэрава.

І яшчэ адна акалічнасць, якая звярнула на сябе ўвагу, — даступнасць свята. Практычна любы жыхар горада або ягоны госць мог паглядзець канцэрт і прыняць удзел у спаборніцтвах, прагуляцца па выставе народных умельцаў і штосьці набыць, пакаштаваць самыя разнастайныя стравы на "Салігорскай багатусе", зрэшты, набыць усё на той жа вуліцы Леніна прыгожы букет кветак, каб з удзячнасцю падараваць яго ўдзельнікам шматлікіх канцэртаў.

У разгар свята на плошчу горада на спецыяльнай цялежцы вывезлі велізарны торт вагой у паўтары тоны. Дзесяць дзён працавалі над ім кулінары горада пад пільным вокам крышнаітаў. Рэцэпт торта вельмі старажытны. Крышнаіты прывезлі яго з самой Індыі і, зразумела, трымалі ў сакрэце тонкасці прыгатавання. Торт-прыгажун стаяў пасярод плошчы і кожны, хто жадаў, мог падысці і пачаставацца. Свята ж!

**Таццяна КОМАНАВА**
*Мінск—Салігорск—Мінск*

# ПАМЯЦІ ДВУХ МАСТАКОЎ



Язэп Драздовіч.

27 жніўня ў Мінскім Палацы мастацтва адкрылася выстава ўдзельнікаў пленэру "Шляхамі Язэпа Драздовіча", прысвечаная 110-м угодкам з дня нараджэння мастака.

Гэтым летам 14 мастакоў, сяброў мастацкай суполкі "Пагоня", прайшліся па мясцінах, звязаных з імем мастака, літаратара, навукоўца Язэпа Драздовіча: Мінск — Глыбокае — Полацк — Празарокі — Чарневічы — Пунькі — Германавічы — Лужкі — Гарадзец — Задарожжа — Якубовічы — возера Качаноўскае — Мосар — Маладзечна — Мінск. У час падарожжа быў назапашаны творчы матэрыял, які затым мастакі ўвасобілі ў сваіх работах.

Трэба адзначыць, што падобны пленэр адбываецца ў другі раз — першы прайшоў у 1996 годзе, а ў 1997 годзе быў арганізаваны дзіцячы пленэр "У дзядзькі Язэпа".

На адкрыцці выставы выступіў доктар мастацтвазнаўства Арсень Ліс, мастакі Мікола Купава, Алесь Марачкін, Георгій Лойка, старшыня культурна-асветніцкага Цэнтра імя Язэпа Драздовіча Міхась Райшонак.

Адначасова ў тым жа Палацы мастацтва адкрылася і экспазіцыя твораў беларускага мастака Аляксея Пятрухны, які, як шчыра прызнаваліся яго калегі, абагнаў свой час. Ужо 14 гадоў няма Аляксея Пятрухны сярод жывых, але творы яго толькі-толькі знаходзяць дарогу да шырокага гледача. У часы панавання сацыялістычнага рэалізму творца з нестандартным бачаннем быў незапатрабаваны.



Аляксей Пятрухна.



На адкрыцці выставы "Шляхамі Язэпа Драздовіча". Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.

Ганаровым госцем гэтай выставы была ўдава Аляксея Пятрухны беларуская кампазітарка Людміла Шлег.

Два мастакі — Язэп Драздовіч і Аляксей Пятрухна — нават знешне падобныя між сабою, мелі аднолькавае творчыя імкненні, і таму зусім невыпадкова дзве выставы, прысвечаныя іх памяці, размешчаныя пад адным дахам.

**Наш кар.**

# У ЧАКАННІ КАНЦЭРТА І КОНКУРСУ

Відавочна, што на пачатку верасня ўся ўвага музычнай грамадскасці звернута на Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі. 31 ліпеня скончыўся тэрмін кантракта, падпісанага з Мішам Кацам. Таму быў аб'яўлены конкурс на пасаду галоўнага дырыжора, а разам з ім адкрыта месца трэцяга дырыжора гэтага калектыву. Акрамя самога Мішы Каца, заявы на ўдзел у конкурсе падалі такія добра вядомыя нашы музыканты, як Генадзь Праватораў, Андрэй Галанаў, Міхаіл Сінькевіч, польскі музыка Віктар Дмухоўскі, а таксама Валерый Селін і Фёдар Ляднёў.

У склад конкурснай камісіі, якую ўзначальвае першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, уваходзяць дырэктар філармоніі Уладзімір Ратабыльскі, яе мастацкі кіраўнік Юрый Гільдзюк, старшыня Саюза кампазітараў Ігар Лучанок, старшыня Таварыства музычных дзеячаў Міхаіл Дрынеўскі, кіраўнік Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Беларусі Міхаіл Фінберг, мастацкі кіраўнік оперы Сяргей Картэс, галоўны дырыжор Дзяржаўнага акадэмічнага народнага аркестра імя І.Жыновіча Міхаіл Казінец, начальнік упраўлення музычных устаноў Анатоль Матвіеўскі, члены мастацкага савета аркестра філармоніі Мікалай Крывашэеў, Уладзіслаў Давыдоўскі, Сяргей Белазерцаў, знакаміты піяніст Ігар Алоўнікаў і іншыя.

Конкурс адбудзецца 7 верасня. А пакуль, нягледзячы на страсці, што кіпяць у аркестры і вакол яго, галоўнай падзеяй тыдня стане канцэрт, які пройдзе 5 верасня ў зале Белдзяржфілармоніі. Міша Кац будзе дырыжыраваць уверцюрай з оперы "Руслан і Людміла" М.Глінкі, Другім фартэпіянным канцэртам С.Рахманінава (саліст Цімур Сергіеня) і Пятай сімфоніяй П.Чайкоўскага. Як бачыце, "Развітальнай сімфоніі" І.Гайдна ў праграме няма, так што не такі ўжо і "развітальны" гэты канцэрт. Тым больш, што 8 верасня аркестр на чале з Мішам Кацам адправіцца на гастролі ў Швейцарыю. А мы — будзем спадзявацца на далейшы росквіт галоўнага сімфанічнага аркестра краіны і творчае супрацоўніцтва з ім лепшых маэстра свету.

**Наш кар.**

# ВОСЬ ДА ЧАГО ПРЫВОДЗЯЦЬ ЛЮБОЎНЫЯ ГУЛЬНІ!

Не слухайце пляткарак, якія скажуць, што любоўныя гульні прыводзяць да дзявочай ганьбы. Не слухайце ахоўнікаў правапарадку: фіналам любоўных гульняў яны бачаць адны абрабаванні ды забойствы. Не слухайце нават медыкаў, бо ў салодкім тумане любоўных гульняў ім мроіцца ці то СНІД, ці то пагрозлівы поступ багіні Венеры з вянком захворванняў "у яе гонар". Слухайце адно артыстаў беларускай оперы: хто-хто, а яны добра ўцямілі, што любоўныя гульні прамым шляхам вядуць да прэм'еры.

12 верасня на сцэне Вялікага тэатра Беларусі мы ўбачым доўгачаканы "Шлюбны вэксаль" — спектакль, які яго ствральнікі пазначылі жанрам "любоўныя гульні".

Гульні гульнямі, але спектакль чакаецца — пра маладых і для маладых. Напісаў яго Джаакіна Расіні ў 18 гадоў, хаця і два стагоддзі таму. Ставіць оперу малады рэжысёр Сусана Цырук, музычным кіраўніком выступае малады дырыжор Андрэй Галанаў, сцэнаграфія і касцюмы належаць маладому, але вельмі знанаму майстру Людміле Ганчаровай. І, галоўнае, у ролях закаханых мы ўбачым маладых салістаў, што звычайна для оперы — з галіны фантастыкі. Больш за гэта, у спектаклі "памаладзеў" нават Слук — багаты камерсант з Амерыкі, які прыязджае ў Еўропу ў пошуках нявесты. І з-за гэтага прыйшлося мяняць некалькі слоў у лібрэта, якое было разлічана на пажылога спевака.

А вось італьянская віртуознасць ансамбляў і сола засталася ў партытуры ранейшай. Цікава, як адолеюць яе нашы артысты: Ілля Пэўзнер, Ганна Гур'ева, Паўліна Елісеева, Вікторыя Курбацкая, Алена Шведава, Алег Жукаў, Ян Нялепа, Рыгор Палішчук, Аляксандр Краснадубскі, Уладзімір Мароз, Дзмітрый Капілаў, Віктар Чарнабаеў, Тамара Глаголева, Таццяна Цівунова і іншыя? Тым больш, што па пластыцы, па рухомасці мізансцэн гэты спектакль гатовы спаборнічаць з драматычным.

Ды ўсё ж самае цікавае на рэпетыцыях — назіраць нават не за артыстамі, а за рэжысёрам. Яна і паказвае, і спявае адразу за ўсіх — ды яшчэ як! Дачка знакамітага дырыжора Юрыя Цырука, які пайшоў ад нас, яна скончыла Беларускі музычны ліцэй, а потым — аддзяленне опернай рэжысуры ў Санкт-Пецярбургскай кансерваторыі. Акрамя "капуснікаў" і дзіцячых спектакляў на сцэне ДАВТа, паставіла "Травіяту" — апошнюю оперную прэм'еру. А яшчэ напісала вершаванае лібрэта да мюзікла У.Дамарацкага (на жаль, пакуль не пастаўленага).

Так што не слухайце знаўцаў, якія даводзяць, што сам Расіні вызначыў оперу як музычны фарс у адной дзеі. У нас будуць — любоўныя гульні. Ды ў дзвюх дзеях! І не слухайце заўзятых тэатралаў, якія ўспомняць, што жанрам "любоўныя гульні" быў пазначаны "Сон у летнюю ноч" у студэнцкай пастаноўцы. Акадэміі мастацтваў. Лепей, перш чым "прагуляцца" на прэм'еру (ці "прайсціся" па ёй — каму як), адкрыйце клавір "Шлюбнага вэксаля": у вас ёсць цэлы тыдзень, каб, агучыўшы яго, уявіць уласнае рэжысёрскае прачытанне.

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# "БОНЖУР, ФЕСТЫВАЛЬ!"

Беларускі дзяржаўны харэаграфічны ансамбль "Харошкі" нядаўна вярнуўся з Францыі, дзе пад апякунствам ЮНЕСКА каля месяца праходзіў міжнародны фестываль "Танцы і музыка народаў свету".

У фестывалі бралі ўдзел лепшыя калектывы з Кітая, Турцыі, Аргенціны, Шры-Ланкі, Цэнтральнай Афрыкі, Грэцыі, Шатландыі, Францыі і іншых краін. Беларусь годна прадставіў ансамбль "Харошкі", пра што сведчыць французскі друк:"... але асабліва скарыў гледачоў ансамбль "Харошкі" з маладой Рэспублікі Беларусь, які паказаў сваю цудоўную праграму, заснаваную на беларускім фальклоры. Моцна ўражвае прыгажосць строяў, разнастайнасць інструментаў, выдатнае выканальніцкае майстэрства і, безумоўна, дзіўная харэаграфія, якая дасканала выкарыстоўвае талент і фізічныя магчымасці танцораў..."

Фестываль — з'ява яскравая і маляўнічая. Беларускія артысты з вялікай цікавасцю назіралі за майстэрствам сваіх калег з іншых краін, а ў хвіліны эмацыйных узрушэнняў усе моўныя бар'еры разбураліся, яшчэ раз пацвярджаючы старую ісціну, што сапраўднае мастацтва не патрабуе перакладу.

Прэзідэнт міжнароднага фестывалю пан Жан-Франсуа Пру, выступаючы на закрыцці фэсту, адзначыў: "Мы шчаслівыя, што беларускі калектыў аказаў нам гонар сваёй прысутнасцю на нашым фестывалі і пазнаёміў нас са сваім унікальным мастацтвам. Выступленне "Харошак" — гэта цудоўнае падарожжа ў свет пачуццяў і эмоцый, падарожжа з такім дынамізмам і запалам, якія нікога не могуць пакінуць абыякавым..."

Ансамбль "Харошкі" выступаў у Францыі больш за дваццаць разоў, і кожнае выступленне публіка прымала вельмі цёпла і сардэчна. Хочацца адзначыць, што гледачам асабліва спадабаліся такія нумары, як "Субота", "Весялуха", "Мітусь", "Лянсей" і незабыўная "Пава".

Кіраўніцтва калектыву ўдзячнае нашаму Міністэрству культуры, якое дапамагло здзейсніць гэтую паездку. Цяпер "Харошкі" актыўна рыхтуюцца да адкрыцця новага сезона, якое адбудзецца 3 кастрычніка ў памяшканні Дома афіцэраў.

**Ірына КІРЫЛЮК**

**Фота Жана-П'ера МАРО**



Танцавальны нумар "Пава".

# КУПАЛАЎЦЫ: НОВЫ СЕЗОН — НОВЫЯ ПЛАНЫ

2 верасня на Малой сцэне Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы прайшоў збор трупы. На ім прысутнічалі прадстаўнікі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь — Уладзімір Рылатка і Вячаслаў Далкюнас. Было абвешчана аб навіне гэтага сезона: пераводзе акцёраў пенсіённага ўзросту на кантрактную аснову. Як адзначыў дырэктар тэатра Генадзь Давыдзька: "Гэтай мерай мы ні ў якім разе не хочам нейкім чынам зняважыць акцёраў". Кантрактная сістэма, наадварот, дазваляе палепшыць становішча артыстаў. Бо па гэтым дакуменце тэатр абавязаны прадставіць азначаную колькасць роляў у год для акцёра. Дзякуючы гэтаму паляпшаецца не толькі матэрыяльнае становішча, але і, так бы мовіць, творчае — артыст прымае актыўны ўдзел у спектаклях.

Генадзь Давыдзька выказаў падзяку ўсім службам за выдатнае правядзенне гастроляў Арэнбургскага тэатра ў Мінску (добразычлівасць мінчан настолькі ўразіла ўральскіх артыстаў, што нават да гэтага часу прыходзяць лісты і факсы з падзякамі і пажаданнямі прыехаць на наступны год ізноў).

Што да падзей творчага характару, дык у гэтым тэатральным сезоне пачнецца актыўная праца над рэпертуарам. У трупу прыйшло шмат моладзі — выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў з акцёрскага курса Валерыя Раеўскага. А першая рэпертуарная навіна — прэм'ера спектакля "Вечны Фама" па п'есе Уладзіміра Бутрамеева (8, 9 і 10 верасня павінны адбыцца прэм'ерныя паказы).

Але найпершым пачаткам працы трупы тэатра можна лічыць, акрамя рэпетыцый, гастролі ў Даўгаўпілсе са спектаклем "Ідылія", якія адбудуцца з 25 па 27 верасня. Меркавалася таксама паказаць спектаклі і ў Рызе, аднак па розных абставінах гэтага не адбылося. Адміністрацыя тэатра з дапамогай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь разлічвае праводзіць штогод вялікія гастролі не толькі па краінах СНД, але і ў далёкім замежжы.

Дарэчы, што датычыцца самага купалаўскага спектакля — "Паўлінкі". Тэатрам прынята рашэнне з дапамогай дзяржавы зрабіць гэты спектакль "музеіфіцыраваным" — гэта значыць, што ўвесь рэквізіт, касцюмы, дэкарацыі будуць зроблены штучна. Спектакль мяркуецца ўключыць у склад экскурсійнай праграмы для замежных турыстаў, як адну з адметных з'яў мастацтва Беларусі.

З гэтага года пачнецца і актыўная "раскрутка" не толькі самаго тэатра, але і зорак першай драматычнай сцэны краіны. А іх сярод купалаўцаў хапае!

**Кірыл ВАСІЛЕЎСКІ**

# ПЛЕНЭР, ШАХЦЁРЫ І ПАГАНСТВА

***У памяшканні Салігорскай гарадской бібліятэкі з нагоды 40-гадовага юбілею горада адкрылася персанальная выстава твораў Генадзя Буралкіна.***

Прозвішча гэтага скульптара для жыхароў Салігорска асацыіруецца ў першую чаргу з Манументам шахцёрскай славы, аўтарам якога быў Г.Буралкін у 1976 годзе, тады яшчэ дыпломнік Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Творы, прадстаўленыя на выставе, краналі гледачоў сваёю філасофскай глыбінёй. У цэнтры скульптурных кампазіцый Г.Буралкіна — чалавек, пры чым не як аб'ект мастацтва, а як адна з дасканалых форм жыцця.

Асноўная тэма малюнкаў тушшу Буралкіна — паганства. Менавіта ў паганскай філасофіі і міфалогіі чэрпае ён сюжэты для цыклаў твораў "Славянскія матывы" і "Ноч на Івана Купалу". Гэтыя творы сапраўды па-новаму раскрываюць унутраны свет нашых цяперашніх суайчыннікаў.

У суседняй зале можна было пазнаёміцца з экспазіцыяй "Песня Палесся". Тут мастакі Салігоршчыны прадставілі на суд гледачоў свае карціны, дзе ў цэнтры — людзі шахцёрскай прафесіі.

А побач з бібліятэкай, ля фантана, жыхары і госці горада маглі ўбачыць работы маладых беларускіх скульптараў. Ініцыятарам гэтай акцыі выступіў салігорскі скульптар Уладзімір Ламейка. Тыдзень доўжыўся пленэр, у выніку — сем каменных скульптур-вобразаў засталіся стаяць ля фантана, даючы магчымасць і дзецям, і дарослым праявіць сваю фантазію і кемлівасць у вытлумачэнні ўбачанага.

**Таццяна КОМАНАВА**



*Удзельнікі пленэру каля крыжа ў памяць Міхаіла Корабава.*

У Мікалаеўшчыне, што ў Стаўбцоўскім раёне, завяршыўся пленэр скульптараў-разьбяроў па дрэву, арганізаваны Беларускім саюзам майстроў народнай творчасці. У ім прынялі ўдзел разьбяры са Століншчыны, Смалявіцкага раёна, Маладзечна і Мінска. Дзесяць дзён працавалі майстры, ператвараючы магутныя дубовыя плахі ў скульптурныя кампазіцыі: "Русалку" і "Лесавіка", "Анёла-ахоўніка". У завяршэнні пленэру ўстанавілі на высокім беразе над Нёманам шасціметровы крыж у памяць нядаўна пайшоўшага з жыцця выдатнага разьбяра Міхаіла Корабава, чые скульптуры ўпрыгожваюць Коласаўскі літаратурны запаведнік.

Створаныя на пленэры скульптуры ўстаноўлены на тэрыторыі Дома-інтэрната для ветэранаў вайны і працы ў Мікалаеўшчыне.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БелТА.**

# ГЭТА НАШ З ТАБОЙ УНІВЕРСІТЭТ

Сярод вышэйшых навучальных устаноў краіны Універсітэт культуры вылучаецца сваёй адметнасцю і непаўторнасцю. У ВНУ дзейнічаюць шэраг навуковых гурткоў, студэнцкіх даследчых лабараторый, Цэнтр навукова-культурнай творчасці моладзі. Харавы калектыў "Мара", які існуе з дня заснавання ўніверсітэта, мае ў сваім рэпертуары беларускія народныя песні, творы беларускіх кампазітараў, а таксама апрацоўкі рускіх, украінскіх, літоўскіх народных песень, творы рускіх і замежных класікаў. Калектыў рэгулярна канцэртуе, збірае шырокае кола слухачоў. Вабіць сваёй самабытнасцю мужчынскі хор "Віват", узровень якога з годнасцю ацанілі не толькі жыхары Мінска, але і гарадоў Германіі, Галандыі. Трэба адзначыць і камерны хор старадаўняй музыкі "Дабравест", створаны ў 1993 г. Рэпертуар хору складае духоўная музыка розных эпох і стыляў. Нягледзячы на сваю маладосць, калектыў заняў адметнае месца ў культурным жыцці краіны. Дэманструе сваё майстэрства і кафедра харэаграфіі: яе навучэнцы выступаюць на прэстыжных пляцоўках краіны і за яе межамі. Вельмі цікава працуе кафедра духавой музыкі, якую ўзначальвае В.Новікаў. Самыя разнастайныя праграмы маюць выканаўчыя калектывы кафедры. Дарэчы, студэнцкі духавы аркестр "Светач" пад кіраўніцтвам В.Парамонава заняў сёлета ганаровае месца на міжнародным фестывалі "Сурым-98", які праходзіў у Роўна. Таму відавочна, што факультэт мастацкай творчасці сапраўды мастацкі. Таксама ўніверсітэт мае і іншыя, не менш цікавыя факультэты, якія дзейнічаюць плённа і каларытна. Так, сучасныя накірункі падрыхтоўкі спецыялістаў зрабілі факультэт культуралогіі адным з самых прывабных і жаданых для абітурыентаў, а факультэт бібліятэчна-інфармацыйных сістэм дазваляе атрымаць выдатную адукацыю па сучасных аўтаматызаваных сістэмах, вывучыць замежную мову, а таксама разам з кваліфікацыяй бібліятэкара-бібліёграфа набыць кваліфікацыю выкладчыка беларускай мовы і літаратуры.

Універсітэт падтрымлівае партнёрскія адносіны з шэрагам замежных ВНУ. Гастролі ўніверсітэцкіх калектываў у краінах Еўропы і ЗША, удзел у міжнародных фестывалях і конкурсах уносяць вялікі ўклад у справу прапаганды беларускай нацыянальнай культуры ў свеце.

**Максім БУДАКОЎ, студэнт Беларускага ўніверсітэта культуры.**

# ДАРАВАННЯ, СВІТАННЯ, ЛЮБОВІ...

Вось ужо васемнаццаць гадоў працуе ў нашым Універсітэце культуры слынны беларускі літаратуразнаўца і крытык, даследчык з багатым жыццёвым вопытам Мікола Грынчык. Навуковыя працы яго вызначаюцца тэарэтычнай паглыбленасцю, багаццем прааналізаванага матэрыялу, шырынёй і абгрунтаванасцю аўтарскага погляду на ўзнятыя праблемы. Шырока вядомы манаграфіі М.Грынчыка "Максім Багдановіч і народная паэзія" (1963), "Фальклорныя традыцыі ў беларускай дакастрычніцкай паэзіі" (1969), "Шляхі беларускага вершаскладання" (1973). Ён з'яўляецца адным з аўтараў шэрага падручнікаў па гісторыі літаратуры.



Сёлета ўвесь калектыў выкладчыкаў, супрацоўнікаў і студэнты Беларускага ўніверсітэта культуры далучаюцца да віншаванняў прафесару Грынчыку з нагоды яго 75-годдзя.

Ад шчырай і шчодрай Шчары, ад колішніх быценьскіх муроў, ад мудрых людзей і кніг — шырыня і адкрытасць душы і сэрца Мікалая Грынчыка. І гэта яму прысвяціў У.Караткевіч радкі:

*І любіў бы, і вымаліў людзям*
*і каням*
*Даразанне, світанне, любоў*
*і спакой.*

Шаноўны Мікалай Міхайлавіч, любові, здароўя, трываласці Вам ад усіх нас.

**Рэктарат**
**Прафкам**

# МУЗЫКА ДЛЯ ПЕРШЫХ ШЭРАГАЎ

***Тры дні запар 28, 29, 30 жніўня дарыў мінчукам поп-музыку "Філіпс".***

Каля Палаца спорту была пабудавана сцэна, вакол якой узвысіўся мур з калонак. Над сцэнай пад цыратавым дахам быў усталяваны вялікі экран, дзе публіка, што наваднiла наваколле, мела магчымасць сузіраць самую сабе, бо хлопец, ходзячы з відэакамерай па падмостках, ахвотна паляваў за ўсмешлівымі тварамі маладых людзей. Вясёлы настрой падтрымлівалі вядучыя "Радыё-рокс" і беларускага тэлебачання.

У першы дзень выступалі "Палац" і "Ляпис Трубецкой". Аднак двух грузавікоў апаратуры відавочна было недастаткова для гэткай пляцоўкі і аўдыторыі — прыкладна ўжо за дваццаць пяць метраў ад калонак акрамя бас-бочкі і бас-гітары нічога не было чуваць. Можна было толькі спачуваць "Палацу", які спрабаваў сваімі "жывымі" дудкамі, жалейкамі і ліраю перамагчы шум-гуд вячэрняга горада.

На другі дзень народа пабольшала, бо "Філіпс" бясплатна прапанаваў жыхарам і гасцям Мінску паглядзець і паслухаць знакаміты маскоўскі біт-гурт "Брава". Справядліва кажучы, той, хто паспеў стаць у першыя шэрагі перад сцэнай, мог праслухаць усе апошнія хіты "бравых стыляг" без намагання, а той, хто спазніўся, суцішаў сябе разгляданнем здалёк чырвоных пінжакоў і жоўтых гальштукаў, якімі красаваліся музыкі. Таксама можна было ацаніць пластыку іх рухаў на сцэне, а для таго, каб разабраць словы, лепш за ўсё было карыстацца плэерам з іх запісамі. Праўда трэба было навучыцца ўключаць яго сінхронна з пачаткам наступнай песні.

Адчуваючы наперад, што і ў трэці дзень з апаратурай будзе тое самае, некаторыя юнакі і дзяўчаты прынеслі з сабою свае гітары і, пасеўшы гурткамі на траўку, цішком, не перашкаджаючы дзеі на сцэне, самі спявалі любімыя песні. А на сцэне выступалі Ларыса Грыбалёва і госці праграмы "Усё нармальна, мама!".

І ўсё ж такі ўсе, хто тры дні быў сярод публікі на музычным фестывалі "Філіпс", засталіся ўдзячныя гэтаму сусветна вядомаму канцэрну за падораны добры настрой. Даводзіцца спадзявацца, што наступным разам для правядзення падобнай імпрэзы "Філіпс" павысіць танажнасць сваіх грузавікоў.

# АБАРВАНАЕ СВЯТА

***31 жніўня музычную эстафету, распачатую "Філіпсам", працягнулі "Белоруская деловая газета" і газета "Имя". На картынгдроме непадалёк Мінскай дзіцячай чыгункі пад эгідай гэтых выданняў праходзіла свята "Счапленне".***

Рок-музыкі і ды-джэі спаборнічалі паміж сабой у кіраванні картынгамі. На вялікі жаль і засмучэнне публікі, якая больш паважае жывую музыку, перамаглі ды-джэі. Першае месца ў Алега Грыцко, другое ў Яраслава Лукашэвіча (Ярэка) і толькі трэцяе месца ў Ягора Марачука з "Тарнада".

Паміж заездамі выступалі рок-н-рольны гурт "Метэор", "Віпс", "Hasta la Fillsta". Пасля ўзнагароджання пераможцаў заездаў прыйшла сумная вестка — уладамі Першамайскага раёна г. Мінска не дазволена праводзіць свята пазней за 21 гадзіну, хаця праграма фэсту была распісана да 23 00.

А перад гэтым паспелі выступіць толькі "Тарнада" і дзве песні адыграць "N.R.M.".

Дык што, як у недалёкім мінулым: дзіцячы час да праграмы "Час"?..

# ЗАВЯРШАЛЬНЫ АКОРД МУЗЫЧНАЙ ПЯЦІДНЕЎКІ

***Прыходзіць 1 верасня і абвяшчае: "Канец вакацыям, канец гульботам і прыволлю, пара брацца за розум!" Але каб мяжа паміж бесклапотным летам і сур'ёзнай восенню была не занадта рэзкай, у Мінску сталася традыцыяй пачынаць новы навучальны год з рок-імпрэзы, якая называецца "Рок па вакацыях". Як і летась, "Рок па вакацыях" гучаў у парку Чалюскінцаў. Узнёслыя рок-маны воплескамі, свістам і добразычлівымі дэвізамі віталі сваіх куміраў: "Краму", "Новае неба", "Уліс", "N.R.M.", "Крыві", "The Stocks"...***

Было весела, раскавана і па-братэрску, г.зн. піва, танцы, паказкі і радасць дзеляцца на колькасць удзельнікаў пароўну. Усіх аб'ядноўвае рок-аура!

Але ж Мінск — горад вялікі і моладзі ў ім дастаткова, каб забяспечыць гледачамі-слухачамі-танцуючымі яшчэ хаця б адзін вялікі канцэрт.

На плошчы Незалежнасці ў час, калі ў парку Чалюскінцаў праходзіла імпрэза "Рок па вакацыях", адбывалася больш "аблегчаная" дзея, мэта якой была пасвяціць першакурснікаў у студэнты. Таму натуральна, што назва яе — "Vivat студэнт!". Асноўным цвіком гэтай праграмы сталася выступленне, як паведаміла вядучая, "самай сексуальнай групы" — "На-На". Калі я паспрабаваў даведацца ў танцуючых пад попс-рытм дзяўчат-студэнтак, як яны разумеюць сэнс гэтага азначэння, яны адказалі, што ім у прынцыпе "ўсё роўна, як называюць групу, якая выступае ў дадзены момант на сцэне, галоўнае, што ёсць нагода павесяліцца і патанчыць". Толькі адно выклікала ў публіцы абурэнне і няўхвальны свіст — гэта раптоўныя зрывы фанаграмы, пад якую і скакалі "самыя сексуальныя хлопцы". Шкада было артыстаў, бо музыка абрывалася ў самыя непрадказальныя моманты: хлопцы з "На-На" і іх танц-гурт на пэўныя гукі і словы ўсе разам прыгожа падскоквалі ў паветра, але апускаліся на сцэну ўжо ў поўнай цішыні, і выступоўцам нічога не заставалася рабіць, як хутчэй рэціравацца са сцэны. Праўда праз хвілін пяць канцэрт узнаўляўся з новай сілай.

Як бы там не было, зарад станоўчай энергіі мінская моладзь атрымала і можа распачынаць сваё навучанне з бадзёрым мажорным настроем.

**Серж МІНСКЕВІЧ**

# "П'ЯНЫЯ" ПАЖАРЫ

Пажары, што здараюцца па віне асобаў, якія знаходзяцца ў стане алкагольнага ап'янення, супрацоўнікі пажарнай службы называюць "п'янымі".

Вядома, што тыя, хто грэбуе правіламі пажарнай бяспекі, нярэдка расплачваюцца за гэта нажытай гадамі маёмасцю, здароўем, а іншы раз і жыццём. Але асабліва бязлітасны агонь да аматараў выпіць.

Выпіўшы спіртнога, чалавек робіцца няўважлівым, губляе пачуццё меры і адказнасці. Вядома таксама, што алкаголь амаль заўсёды дзейнічае як снатворнае, а незатушаная цыгарэта можа рэальна згубіць чалавека. На жаль, аматараў такога "камфорту", як паленне ў ложку, яшчэ шмат.

Менавіта па такому, добра вядомаму супрацоўнікам пажарнай службы сцэнарыю адбываюцца "п'яныя" пажары: выпіў, запаліў, заснуў — адбылася трагедыя. Да таго моманту, як пажар заўважаць суседзі і выклікаюць пажарных, агонь ужо на ўсю моц гуляе па кватэры. Яшчэ горш, калі пажар пачынаецца ўначы, калі большасць людзей адпачывае. Смерць тады — не рэдкасць.

Штогод незлічоныя беды прыносяць пажары, якія адбываюцца па віне п'яных людзей. І самае сумнае — колькасць такіх выпадкаў не змяншаецца. Падобныя факты — нагода для развагі: на месцы тых, хто легкадумна абыходзіцца са сваім жыццём, можа апынуцца кожны аматар спіртнога.

**М.КАЗАКЕВІЧ, інспектар ВПЧ-6 Цэнтральнага раёна г.Мінска, лейтэнант унутранай службы.**

*Як і заўсёды наша газета будзе шырока асвятляць вясеннія свята артыстаў і гледачоў лялечнага мастацтва. Спадзяёмся, што яно ўсё ж такі адбудзецца. А пакуль пачынаем знаёміць чытачоў з жыццём-быццём айчынных тэатраў лялек. Дарэчы, менавіта віцябляне атрымалі прыз у конкурсе творчай моладзі Беларусі, галаканцэрт пераможцаў якога адбудзецца ў лістападзе ў Гродне. Але аб гэтым крыху пазней.*

# ЛЯЛЕЧНАЯ РАЗМОВА З СУР'ЁЗНЫМ КЛІМЧУКОМ

***Беларускі тэатр "Лялька" — часты госць на Мінскім лялечным фестывалі. Упершыню прыехалі віцябляне на Мінскае лялечнае свята ў 1990 годзе, прапанаваўшы гледачу спектакль "Сказ пра Гаўрылу з-пад Полацка" паводле п'есы П.Сіняўскага. Не ўсё атрымалася тады так, як хацелася. Але дробныя няўдачы не адбілі жаданне прыехаць яшчэ і яшчэ... Тэатральная эліта і сталічная грамадскасць бачыла лепшыя лялечныя спектаклі: "Папялушку" паводле Я.Шварца, "Хлопчыка-Зорку" паводле А.Уальда, "Загубленую душу, або Пакаранне грэшніка" паводле Я.Баршчэўскага.***

***"Чароўная зброя Кэндзо" — спектакль паводле японскіх народных казак. Насуперак ваяўнічай назве і традыцыйнаму ўяўленню пра лялечныя п'есы Японіі, ён не стамляе батальнымі сцэнамі і крывавымі плынямі. Гібель зла адлюстравана ў ім хутчэй знакава, сімвалічна, і без ваяўнічай жорсткасці, з пэўнай інтэлігентнасцю пададзена Гідаю (акцёр Ю.Франкоў). Не адасобіўшыся цалкам ад еўрапейскага светаразумення ў час працы над зместам, рэжысёр захаваў традыцыі Японіі ў форме падачы матэрыялу. Ёсць у спектаклі Гідаю-апавядальнік і ўдзельнік казкі, пасрэднік паміж героямі на сцэне і гледачамі ў зале, Музыка, які дапамагае лепш зразумець настрой той ці іншай сцэны. Дарэчы, гэтыя героі не былі прадугледжаны аўтарам п'есы — М.Супоніным.***

***Зусім іншы па форме і па настрою спектакль "Брэменскія музыкі" паводле Васіля Ліванава і Юрыя Энціна. У афішы няма моднага слова мюзікл, аднак падзеі на сцэне разгортваюцца па правілах гэтага жанру. Цудоўная музыка Г.Гладкова, жывыя акцёрскія галасы, танцы ў пастаноўцы А.Кастрыцкага, а самае галоўнае — абраная форма цыркавога прадстаўлення робяць спектакль надзіва святочным і вясёлым.***

***Думаецца, гледач не будзе расчараваны, спецыялісты таксама скажуць яшчэ сваё слова, а пакуль — гутарка з мастацкім кіраўніком Беларускага тэатра "Лялька", рэжысёрам-пастаноўшчыкам абодвух прапанаваных спектакляў Віктарам КЛІМЧУКОМ.***



*Сцэна са спектакля "Чароўная зброя Кэндзо".*

**— З кожным годам спектаклі ў "Лялькі" становяцца ўсё больш сур'ёзнымі. У рэпертуары з'явіліся такія назвы, як "Хлопчык-Зорка" А.Уальда, "Чароўная зброя Кэндзо" М.Супоніна, вядзецца праца над "Крэсівам" паводле Андэрсена. Значыць, можна меркаваць, што на наступны фестываль "Лялька" прывязе спектакль для дарослых?**

— Так. Думаю, што цяпер я сапраўды з упэўненасцю магу сказаць, што пастаўлю спектакль для дарослых, які абяцаў нашаму гледачу ўсе 12 гадоў (12 гадоў — узрост "Лялькі"). Бо ўсе мы: і калектыў, і я, і глядач — дараслі да гэтага. Абраны, на маю думку, вельмі цікавы матэрыял "Ладдзя роспачы" У.Караткевіча. Аляксей Дудараў зараз робіць для нас інсцэніроўку твора. А што да паказу спектакля на фестывалі ў Мінску... Гэта таксама цалкам магчыма. Наш першы вопыт пастаноўкі для дарослых не можа быць няўдалым хаця б таму, што такі выдатны матэрыял, як аповесць Караткевіча. Сапсаваць вельмі цяжка. Сапраўды, даводзіцца чуць, што п'есы Уладзіміра Сямёнавіча хутчэй літаратурныя, чым драматычныя. Але ж мы абралі не п'есу — аповесць, да таго ж мне бачыцца гэты твор проста захапляючым менавіта ў лялечным выкананні.

**— Раскажыце пра дарослы спектакль, які вы плануеце паставіць пасля вяртання са стажыроўкі ў Японіі.**

— Дай Бог спачатку туды паехаць. Гэта праўда, што пасля вяртання з Японіі я планаваў паставіць яшчэ адзін спектакль на ўсходнім матэрыяле. Для дарослых. Адрозніваецца ж ад "Чароўнай зброі Кэндзо" ён будзе найперш тым, што ў якасці літаратурнага матэрыялу я хачу скарыстаць нацыянальную японскую п'есу, не адаптаваную еўрапейскім драматургам для нашага ўспрымання. Японія мае вялікія традыцыі лялечных тэатраў і, адпаведна, грунтоўную лялечную драматургію, у якой ёсць свая спецыфіка, нязвыклая, але цікавая для еўрапейцаў. І мне б хацелася ўзяць гэтую п'есу не як заморскую цацку-сувенір, а паспрабаваць самаму, паглыбіўшыся ў матэрыял, зразумець філасофію і логіку японцаў, спазнаць мудрасць гэтага народа. Разумею, што цалкам гэтага зрабіць немагчыма, але хоць бы наблізіцца... Такая работа павінна быць вельмі цікавай і для мяне, і для акцёраў, і для гледача. Я спадзяюся на гэта.

**— Як вядома, адзін з асноўных законаў рынку: попыт нараджае прапанову. Ці падпарадкоўваецца гэтаму закону фарміраванне рэпертуару "Лялькі"?**

— Так, наш тэатр рыначны. Названаму закону мы падпарадкоўваемся. І я не бачу ў гэтым нічога дрэннага. Я перакананы, што мастацкі кіраўнік павінен граматна весці рэпертуарную палітыку. Стараюся гэта рабіць. Бо тэатр не павінен губляць гледача. Таго гледача, які разумее свой тэатр. Тэатр жывы, пакуль патрэбны. А калі паміж людзьмі ў зале і акцёрамі на сцэне да таго ж завязваецца дыялог-размова — гэта лепшы стымул для развіцця. Свае ж творчыя амбіцыі і патрэбы я без цяжкасці магу задаволіць і ў межах гэтага рыначнага закону. Галоўнае, улічыць і збалансаваць свае запатрабаванні і запатрабаванні гледача. Вось, для прыкладу, "Брэменскіх музыкаў" я хацеў паставіць вельмі даўно. Але не мог гэтага зрабіць, пакуль не ўключыў у рэпертуар спектакль для самых маленькіх — "Буку" М.Супоніна. Не скажу, што гэта праца была надта цікавай для мяне, але я задаволіў патрэбу горада.

А яшчэ мне падабаецца здзіўляць гледача. Хто чакаў убачыць у лялечнай афішы "Брэменскіх музыкаў" або "Ладдзю роспачы"? А гэтыя назвы раптам з'яўляюцца. Вось тады і цікава гараджаніну чытаць наш рэкламны шчыт.

**— Часта ў ацэнках спектакля можна пачуць: гэты — гледацкі, той — фестывальны. Ці дыферэнцуеце вы свае спектаклі такім чынам?**

— У наш час я не лічу такі падзел актуальным. Бо тэатр сёння — гэта мастацтва элітарнае. А лялечны тэатр элітарны яшчэ ў большай ступені. Да таго ж віцебскі глядач, на маю думку, вельмі культурны і інтэлектуальны. Нават дзеці. Таму і адпадае сама сабой патрэба ставіць асобна для гледача і асобна для крытыкі. Іншая справа — мастацтва на ўзрост. Калі спектаклі розніць выразныя сродкі. Пастаноўкі для маленькіх больш экспрэсіўныя, дынамічныя. Там менш філасофіі. На фестываль жа стараешся везці спектаклі для старэйшых. Так склалася, але, я лічу, самае галоўнае, каб пастаноўка была цікавай і зразумелай, тады яна спадабаецца і гледачу, і крытыкам.

**— Віцебскі тэатр — першы з лялечных цалкам беларускамоўны. Чаму знікаюць і ці з'явяцца зноў у афішы тэатра п'есы беларускіх аўтараў? Цяпер жа, здаецца, застаўся толькі Вольскі...**

— А Клімчук? Ягоны "Чароўны пярсцёнак" ужо не лічыцца?! Калі сур'ёзна, я збіраюся зноў звярнуцца да беларускай драматургіі. Раней беларускіх аўтараў на афішы было шмат. Мы ставілі П.Сіняўскага, А.Дыбчу, С.Сокалава-Воюша, У.Гараўцова (паводле Я.Баршчэўскага)... Цяпер, як я ўжо казаў, буду працаваць з творам Уладзіміра Караткевіча. Надалей збіраюся ўключыць у рэпертуар п'есу "Казляняты, адчыніце" П.Макаля. Спадзяюся, атрымаецца неблагая опера. А не так даўно мне ў рукі трапіў яшчэ адзін цікавы матэрыял — пераклад і інсцэніроўка "Канька-гарбунка" П.Яршова, выкананы З.Дудзюк.

**— Даўней для "Лялькі" паездка на фестываль у Мінск была сур'ёзным выпрабаваннем. Хацелася паказацца як найлепш, але атрымлівалася так не заўсёды. Зараз аўтарытэт тэатра прызнаны. Не сакрэт, што і абодва спектаклі ўжо атрымалі станоўчую ацэнку крытыкі і грамадскасці. З якімі пачуццямі вы зазвычай ездзіце на фестывалі?**

— Першае пачуццё — хваляванне. Нягледзячы на аўтарытэтнасць і прызнанасць. Наступнае, напэўна, спадзяванне. Спадзяванне на тое, што зноў сустрэну цікавых асоб, творцаў, у якіх будзе чаму павучыцца. А таксама натуральнае жаданне паказаць калегам, чым займаецца і чым жыве зараз наш тэатр. Лічу немалаважным і тое, што фестывалі даюць магчымасць паказаць акцёрам свой талент шырокай грамадскасці, тэатральнай эліце. Таму заўсёды на фестывалі імкнуся везці масавыя спектаклі. Вось і ў "Брэменскіх музыках" занята ўся трупа, у "Чароўнай зброі Кэндзо" 10 чалавек з 12. Ёсць вельмі цікавыя работы і ў "Чароўнай зброі Кэндзо": Юкіко (Г.Кір'янава), Кэндзо (Ю.Сяменчанка), Гідаю (Ю.Франкоў), Музыка (А.Рыхтэр); і ў "Брэменскіх музыках" — Трубадур (А.Рыхтэр), Прынцэса (В.Маханькова), Кароль (Ю.Сяменчанка), Блазн (А.Маханькоў). Трупа зараз у добрай форме. У "Брэменскіх музыках" гэта асабліва відавочна: акцёры ходзяць на руках, круцяць абручы, садзяцца на шпагат, прынцэса ходзіць на пуантах.

**— "Чароўная зброя Кэндзо" — матэрыял невядомы. Таму ў любым выпадку ён будзе ўспрымацца як новы і свежы. "Брэменскія музыкі" палюбіліся маленькім і дарослым у мультыплікацыйнай версіі. Не страшна прайграць у параўнанні з ёю?**

— Сапраўды, цяжка працаваць з матэрыялам, калі ўжо ёсць нейкі стэрэатып. Але я пастараўся збіць яго іншым падыходам. Я лічу, што ў мульціку згубілася самае галоўнае, дзеля чаго была напісана казка: рамантыка шчырага кахання. І, як вынік, знік настрой твора. Я перад сабой адразу паставіў мэту: спектакль будзе пра каханне Трубадура і Прынцэсы. Якая версія лепш — "Лялькі" ці мультыплікацыйная — меркаваць не мне. Адно магу сказаць з упэўненасцю: яны вельмі розныя.

**— Фестывальная афіша "Лялькі" за апошні час вельмі пашырылася. Чым з'яўляюцца для вас лялечныя святы ў Мінску на фоне расійска-французска-нямецкіх паездак тэатра?**

— Якой бы ні была геаграфія нашых вандровак, у Мінск я заўсёды еду з асаблівым задавальненнем. Айчынныя лялечныя святы маюць даволі высокі ўзровень у параўнанні з іншымі. Найперш мне вельмі падабаецца тое, што спектаклі абмяркоўваюцца спецыялістамі. У прэсе можна знайсці розныя водгукі на пастаноўку. Гэта надае фестывалям грунтоўнасць. Да таго ж мне вельмі цікавы менавіта беларускі тэатр лялек. Мне падабаецца, як працуюць калегі ў Магілёве, Брэсце, Гомелі, Гродне. А фестываль — цудоўная магчымасць для ўсіх нас сустрэцца і даведацца, што новага мы маем у беларускім лялечным мастацтве. Я не кажу ўжо пра карысць ад знаёмства з эстэтыкай тэатраў замежжа. Яна відавочная.

**Вікторыя ДАШКЕВІЧ**
*Віцебск*

## "СУСТРЭНЕМСЯ З ГЛЕДАЧАМІ ТОЛЬКІ Ў ЛІСТАПАДЗЕ..."

***У верасні чакалі прыезду ў Мінск замежных лялечных тэатраў на міжнародны фестываль. Але, на жаль, фестываль не адбудзецца. Аляксей ЛЯЛЯЎСКІ, галоўны рэжысёр Дзяржаўнага тэатра лялек РБ, так тлумачыць прычыны цяперашняга становішча:***

— Яшчэ летам уздымалася пытанне аб фінансаванні фестывалю. Гэтае мерапрыемства не камерцыйнае. Адзінай крыніцай паступлення грашовых сродкаў з'яўляюцца Міністэрства культуры РБ і гарадскія структуры. Афіцыйных адмоваў у дапамозе атрымана не было, але не было і ўпэўненасці ў тым, што матэрыяльная падтрымка будзе аказана. А калі рухнула частка паверха ў будынка тэатра, стала зразумелай немагчымасць правядзення фестывалю сёлетняй восенню. Ёсць надзея, што ён адбудзецца ў маі. Пакуль вядзецца капітальны рамонт тэатра. Але нягледзячы на гэта, у хуткім часе пачнуцца рэпетыцыі. Гледачы змогуць наведаць тэатр лялек толькі ў лістападзе, калі мы плануем адкрыццё новага сезона.

**Іна РЭДЗЬКО, Ганна ВАШЧЫЛА**

***Ну, на справе ўсё куды прасцей: трыццаць не самім хлопчыкам, а хору хлопчыкаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі. А галоўнаму "хлопчыку", іх кіраўніку Уладзіміру ГЛУШАКОВУ, — крыху за трыццаць, бо ён выпускнік першага набору ў гэты калектыў.***

***Цудоўная дата, святкаваць якую можна цэлы год! Тым больш, што супала яна з бліскучай перамогай беларускіх хлапчукоў на III Міжнародным конкурсе харавых калектываў імя Р.Шумана ў Цвікау.***

— Сапраўды, я быў сярод першых, калі Ігар Андрэевіч Жураўленка збіраў гэты хор. Шмат гадоў мы не бачыліся: ён з'ехаў у Маскву, я вучыўся і працаваў. І вось цяпер, праз чатыры гады, як я ўзначаліў гэты хор, мы сустрэліся на конкурсе Шумана ўжо як калегі: ён выступаў з Маскоўскім жаночым камерным хорам.

**— Гэтыя чатыры гады вы працягвалі былыя традыцыі ці складалі новыя?**

— Хутчэй, адраджаў тое, чаму сам быў сведкам. І найперш намагаўся адрадзіць тую атмасферу, тыя адносіны між Настаўнікам з вялікай літары і навучэн-

***Сяргей Цімохаў нарадзіўся ў 1960 годзе на Гомельшчыне сярод лясоў і балот у паляшуцкай вёсцы Кротаў. У 1979 годзе скончыў Мінскую мастацкую вучэльню. У 1984-м — Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. З 1986 года жыве на Полаччыне. Адзін з заснавальнікаў полацкай галерэі "Рыса". Лаўрэат II леташняга Шагалаўскага пленэру. Паслядоўнік паганскіх традыцый у беларускім мастацтве.***

**— Мне цяжка зразумець, чаму ты, з глухой паляшуцкай вёскі, вырашыў вучыцца на мастака.**

— У нашай вёсцы была васьмігодка. Ісці ў дзевяты клас у суседнюю вёску я адназначна не хацеў. Вырашыў некуды паступаць. Гартаў даведнік вучэльняў і спыніўся на мастацкай. Чаму? Напэўна, меў прыроднае жаданне пазнаваць свет з дапамогаю алоўка і пэндзля. Інакш не патлумачыш. Бо сур'ёзна ў дзяцінстве маляваннем я не займаўся. На сённяшні розум, маё паступленне ў мастацкую вучэльню выглядае на авантуру. Да таго ж я рызыкаваў. Я скончыў школу з граматай і ў любую іншую вучэльню мяне прынялі б без экзаменаў. А тут трэба было здаваць экзамен па спецыяльнасці: жывапіс, малюнак, кампазіцыя. І ўсё ж я выбраў. Падаваць дакументы ў Мінск я паехаў з сябрам-аднакласнікам. Прыехалі ў Мінск у чатыры раніцы. Нетаропка пайшоў у бок вучэльні, разглядаючы горад, дзівячыся яму. У вучэльні я пабачыў узор таго, што мне трэба будзе намаляваць на экзаменах. Я паглядзеў і вырашыў: гэтак і я намалюю. Калі я прыехаў на наступны раз, ужо здаваць экзамены, калі нас запусцілі ў клас маляваць і навокал мяне абітурыенты ўзяліся за справу, па ўсіх правілах, як іх вучылі ў мастацкіх школах, я зразумеў, у якое становішча патрапіў.

# А ХЛОПЧЫКАМ — 30!

цамі, што існавалі пры Ігары Андрэевічы. Мы ж яго не проста любілі — ён быў для нас кумірам і запаўняў сабой усю прастору быцця. Адсюль і маё творчае крэда: не навучаць ці, тым больш, павучаць, а стварыць каманду аднадумцаў. Пры гэтым дзейнічаць не сілавымі метадамі і нават не толькі зацікаўленасцю ў канцэртах, хаця гэта і моцны стымул, які імгненна мабілізуе хлопцаў.

Працэс навучання ідзе з вялізнай энергіяй, калі дзеці захоплены, калі адчуваюць, што кіраўнік такі ж чалавек, як і яны (вось чаму харамі хлопчыкаў так рэдка кіруюць жанчыны), што і ён здольны на такія ж учынкі, як і яны. І, між тым, існуе дыстанцыя, бо ён — аўтарытэт, які шмат умее. Дзяцей можна ў нечым пераканаць толькі тады, калі ты робіш тое, што і яны, але ў дзесяць разоў лепей. Аснова майго аўтарытэта, напрыклад, трымаецца на тым, што я магу ў час канцэрта выйсці з сольным нумарам — і зала ўзарвецца апладысментамі. Пасля гэтага дзеці літаральна абагаўляюць мяне, распытваюць, дзе я вучыўся. І ўжо калі я раю нешта старэйшым хлопцам-абітурыентам, дык яны да гэтых парад прыслухоўваюцца.


Уладзімір Глушакоў.



І такі прыклад павінен быць на ўсім: у побыце, у спорце, у знешнім выглядзе. Бо яны глядзяць на цябе як на ўзор. Дзяцей нельга ламаць, яны павінны заставацца анёламі на сцэне і... д'ябламі па-за сцэнай. А шарэнга змардаваных музыкай дзяцей не прынясе радасці ні сабе, ні гледачам.

**— Вы не толькі з'ядналіся з дзецьмі, але і аб'ядналі іх саміх. Бо раней, як я памятаю, хор падзяляўся нібы на тры калектывы: малыя, падлеткі, юнакі.**

— Калі я прыйшоў у калектыў, дык здзівіўся, што не ўсе старэйшыя ведалі малодшых па імёнах. Як жа ім спяваць разам, калі яны нават не размаўляюць паміж сабой. Гэтую праблему я вырашыў за год. Мы тады паехалі ў французскі горад Нант на конкурс — там і перазнаёміліся. Калектыў з'яднаўся, і мы трапілі ў паўфінал. Так пачалося наша паступовае адраджэнне. Гэтаму я і прысвячаю сваё жыццё: стварыць традыцыю харавога выхавання дзяцей ад першага да дванаццатага класа.

**— Але ж гэтаму перашкаджае мутацыя!**

— Падчас мутацыі мы прытрымліваемся методыкі, якая не дазваляе рэзка кідаць спевы. Арганізм, што знаходзіцца ў пастаянным трэнажы, значна здаравейшы. Да таго ж, калі год-два не спяваць, дык потым можна і зусім не вярнуцца да спеваў. Таму калі юнак можа спяваць толькі адну ноту — няхай і спявае яе, трэніруе свае звязкі. Але ж адбывацца гэта павінна абавязкова пад кантролем выкладчыка па пастаноўцы голасу.

**— Вам дапамагаюць не толькі паплечнікі, але і Міністэрства культуры, дзяржава.**

— Сапраўды, нам зайздросцяць усе краіны СНД і нават Германія, бо ў іх няма такой падрыхтоўкі. Мы ж шукаем хлопчыкаў па ўсёй краіне, штогод у верасні дасылаем лісты ў кожную ДМШ, каб у сакавіку да нас прыехалі дзеці на праслухоўванне, якое ператвараецца ў конкурс "Спяваюць хлопчыкі". Усе атрымліваюць падарункі, прэміі, а лепшых залічваем у свой каледж і займаемся з імі дадаткова, каб яны дагналі сваіх равеснікаў па музычных дысцыплінах. Зразумела, што ўсе выдаткі на гэты конкурс і, увогуле, на далейшы лёс гэтых дзяцей бярэ на сябе дзяржава.

**— З іх вырастаюць прафесіяналы. Але ж на Захадзе больш, чым у нас, аматараў харавых спеваў.**

— Справа ў розных сістэмах адукацыі. У іх далучэнне да музыкі ідзе з маленства. З двух-трох гадоў дзеці разам з бацькамі прыходзяць у касцёл і спяваюць псалмы па нотах. Бо там нотная грамата — як азбука. І ў якога-небудзь фермера можна знайсці цэлую калекцыю класічных запісаў. Таму мне хацелася б пажадаць нашаму народу, каб у яго былі такія ж добрыя адносіны да класікі, як і ў Еўропе.

**— А што можа лепей спрыяць гэтым добрым адносінам, чым хор хлопчыкаў! Бо калі дзеці выконваюць музычную класіку, слёзы капаюць нават у самых глухіх да яе. Далейшых вам поспехаў і перамог!**

**Надзея БУНЦЭВІЧ**

# ЛЮБІЦЬ ДРЭВА, РАКУ, СОНЦА...

Але не разгубіўся. Пачаў прыглядацца да суседзяў. Рабіць нешта падобнае. І мае прыродныя здольнасці мяне не падвялі. Па спецыяльнасцях я атрымаў чацвёркі і быў залічаны ў вучэльню.

**— Як адбывалася тваё далучэнне да сапраўднага мастацтва?**

— Спачатку было цяжка. Па-першае, я не атрымаў месца ў інтэрнаце і паўгода жыў на кватэры. Па-другое, былі ў мяне праблемы з рускай мовай. Я скончыў беларускую васьмігодку. І мне было цяжка перайсці на навучанне па-руску. Блытаўся з тэрміналогіяй. Але стараўся. Імкнуўся пазбавіцца акцэнту. Адным словам, працаваў сумленна і ўпарта. Бо трэба было яшчэ набыць тыя базавыя веды, якія большасць нашай групы атрымала ў дзіцячых мастацкіх школах. На другім курсе я ўжо выраўняўся з сакурснікамі. А на трэцім — стаў адным з лепшых у групе. Каб далей вучыцца, я павінен быў атрымаць накіраванне ў інстытут. Накіраванне далі толькі некалькім выпускнікам, самым лепшым. І я імкнуўся яго атрымаць. Дыплом мы рабілі ўчатырох — праект музея народнай творчасці ў Маламажэйкаўскай царкве. У той час яна была занядбанаю, але ўсё адно моцным, трывалым збудаваннем. Нездарма абарончы храм. Мы ладзілі вандроўкі ў ваколіцы царквы. Збіралі ручнікі, сялянскую вопратку, запісвалі паданні, фальклор. Напэўна, менавіта ў той час я зразумеў: тое, што ў мяне было закладзена з дзяцінства, што перайшло ад маіх дзядоў і прадзедаў, ёсць найвялікшы скарб, спадчына. І я не павінен яго саромецца, выракацца з сябе. Наадварот, я мушу гэтым ганарыцца. У мяне ёсць, а ў вас няма, вы згубілі. І калі я канчаткова дамогся чысціні вымаўлення па-руску, я пачаў свядома скрозь размаўляць па-беларуску. У тым ліку і на занятках у вучэльні. Зразумела, і дыплом мы зрабілі ў беларускай мове.


С.Цімохаў. "Пісанкі".

**— Паступаць у "тэатралку" было ўжо прасцей?**

— Вядома. Я ўжо абцёрся ў сталіцы. Меў добрыя тэарэтычныя веды. Малюнак на экзамене здаў на пяць.

**— Ты і ў "тэатралцы" размаўляў усюды па-беларуску?**

— Канешне. І экзамены здаваў, і вучыўся, і з сакурснікамі размаўляў, і ў гарадскіх крамах. На той час гэта выглядала вельмі экзатычна. Гэта сёння беларуская мова ў сталіцы не такая ўжо і рэдкасць. А тады... Спачатку сакурснікі падкалвалі, пасмейваліся. Але хутка прывыклі. Я нават філасофію і навуковы камунізм здаваў па-беларуску. Не ведаю, разумелі мяне выкладчыкі ці не, але не абураліся і аднак ставілі добрыя.

**— Што ўплывала на цябе як на мастака ў той час? У каго ты вучыўся?**

— Шмат мне дала мая манументальная кафедра. Тут патрабавалася стварэнне вобраза, спалучэнне з архітэктурай. Можна абстрактна працаваць з колерамі. Аднак чаму не выкарыстаць увесь творчы арсенал і не далучыць графіку — надаць вобразнасці большую змястоўнасць. Вядома, уплывалі на мяне мае настаўнікі, у вучэльні — Купава, Маркавец, у інстытуце — Вашчанка. Настаўнік — гэта не толькі той, хто вучыць трымаць у руцэ пэндзаль, але, можа найперш, той, хто вучыць вучыцца у самога сябе. Вучыцца на свае пытанні самастойна шукаць адказы, яны заўсёды недзе глыбока ў цябе схаваныя. Галоўнае, да чаго я тады дайшоў самастойна: беларускае мастацтва павінна паўставаць са сваёй глебы, з гісторыі свайго краю, з роднага фальклору, легендаў, бытавых прадметаў, звычаяў, дэкаратыўна-прыкладных рэчаў. Гэтае разуменне можна спрафанаваць і пачаць маляваць лапці і саламяныя капелюшы. А можна паглыбіцца ў гэта, як у стыхію.

**— Зараз мы падыходзім да тваёй паганскай канцэпцыі? Ты таксама да яе дайшоў сам?**


Сяргей Цімохаў.

— Я доўга разважаў: няўжо тыя нашыя далёкія продкі, якія жылі на гэтай зямлі, былі сапраўды такімі дзікунамі, як аб іх сведчаць у летапісах тагачасныя хрысціянскія місіянеры. Стагоддзямі яны жылі ў гэтым лясным, балотным краі. Яны мелі сваю мараль, звычаі, абрады, рэлігію, спевы, жаночыя ўпрыгажэнні, знакавую сістэму і г.д. У сукупнасці гэта і ёсць культура. Яны мелі сваю культуру. Дзе яна дзелася? Яе знішчыла хрысціянская культура. Так лічыцца. Але на самай справе нічога яна не знішчыла. Яна выкарыстала напрацаванае гэтай культурай у сваіх інтарэсах. Нават полацкая Сафія пабудавана на месцы былога паганскага капішча. Амаль усе хрысціянскія святы дублююць паганскія, толькі цяпер яны набылі іншы змест і сэнс. Адбылося, як часам робіцца ў храмах, старыя фрэскі замазалі новымі. Чалавек цяпер павінен падпарадкоўвацца аднаму Богу, дакладней, намесніку яго на зямлі. А гэты намеснік — князь, цар, папа рымскі і г.д., той, з кім атаясамліваецца ўлада, дзяржава. У IX стагоддзі на нашых землях пачаўся працэс стварэння дзяржавы. Таму прыняцце хрысціянства было хутчэй палітычным актам. Хаця вядома, што полацкія князі яшчэ доўга захоўвалі адданасць сваёй бацькоўскай веры. Сітуацыя патрабавала далучацца да хрысціянскага свету. Паглядзіце на беларускі фальклор, ён цалкам захаваў нам паганскае светаадчуванне, сваё разуменне свету і падзей, якія адбываюцца ў ім. Гэта неверагодны скарб. Зашыфраваная мудрасць народа. Вазьміце знакавую сістэму таго часу. Не проста так маляваліся ромбікі, кружочкі, крыжыкі на керамічным посудзе або вышываліся на ручніках. Праз знакі чалавек размаўляў з сусветам. Перш чым забіць зайца, ён павінен быў прасіць дазволу ў лесавіка. Перш чым пасадзіць жыта — задобрыць бога ўраджаю. Чалавек ведаў: калі ён будзе прыносіць шкоды навакольнаму свету, гэта яму не даруецца. Такога чалавека не будуць цярпець і супляменнікі, каб ён наклікаў бяду, не — прагоняць і ніхто не падасць рукі. Рабіць шкоду навакольнаму свету было тое ж самае, што рабіць шкоду сабе. Толькі вар'ят на гэткае здольны. Гэтую глыбінную філасофію мы згубілі, яе пачуццё, яе патрабаванні і законы.

**— І ты пачаў аднаўляць яе?**

— Я аднаўляю разуменне гэтага. Для сябе. Апошнія гады ў беларускім выяўленчым мастацтве адбыўся рэзананс хрысціянскай культуры. Ледзь не кожны другі малюе анёлаў, Хрыста, хрысціянскія сюжэты. Калі я пачынаю над гэтым думаць, я адчуваю, што не магу быць шчырым, не адчуваю я гэтага, для мяне ўсё яно чужое. Я не магу ўявіць, што і як рабіў Хрыстос у Палесціне, у пустыні, сярод качэўнікаў-жывёлаводаў. Вось ён ідзе і што адчувае? Калі б ён ішоў па лесе, я б уявіў: вось закугікала сава, недзе завыў воўк, каля ног прабегла яшчарка, сонца купаецца ў возеры, сляпіць бліскаўкамі, або стаяць елкі ў снежных уборах, рыпіць пад нагамі снег. Я адчуваю гэта, я магу гэтыя пачуцці перадаць праз колеры, вобразы, сюжэты. Гэта і ёсць паганскія пачуцці. Таму для мяне мая паганская канцэпцыя ёсць хутчэй "інструмент", з дапамогай якога я імкнуся спазнаць свет, гэта крыніца, з якой я чэрпаю натхненне.

**— Ці бачыш ты перспектыву ў паганства як у ідэалогіі?**

— Па шчырасці, я не ўяўляю, як з гэтага можа паўстаць дамінантная ў грамадстве ідэалогія. Іншая справа — агучванне нейкіх частак, нейкіх асноў, сінтэз з хрысціянствам. Мяне ўразіла, што ў Расіі аб гэтым пачалі задумвацца. Нядаўна бачыў па тэлевізары інтэрв'ю з братам Чубайса, які казаў, што рускаму народу трэба вяртацца да язычніцкіх адносінаў, нават у палітычнай і сацыяльнай сферы.

**— Што ты скажаш аб сваіх планах?**

— Буду жыць, маляваць, думаць.

**— А я віншую цябе з нараджэннем сына! Спадзяюся, і ён будзе любіць лес, поле, раку, сонца, неба, карацей, любіць і берагчы наш цудоўны, па-дзіцячаму даверлівы свет.**

**Гутарыў Алесь АРКУШ**


Бꙋкварь
Сирѣчь,
Начало ꙋченія
Дѣтем начинающим чтенію
изъвыкати.
в Кꙋтеинѣ
Изъωбразнєм.
в Тѵпографіи
Спиридона
Собола.
Рокꙋ, ахла.

*“Буквар” С.Собаля. 1631. Тытульны ліст.*

# ДРУКАР ПІСАННЯ СВЯШЧЭННАГА

## СПІРЫДОН СОБАЛЬ

Ён усё жыццё нёс народу асвету. Сам сябе ён называў “печатником писаний божественных”. Друкаваў ён кнігі, вучыў дзетак і бачыў у гэтым сваё прызванне.

Нарадзіўся Спірыдон Собаль у Магілёве у сям'і магілёўскага бурмістра Багдана Собаля. Бацька будучага друкара быў адным з завадатараў выступлення праваслаўных супраць уніяцкага архіепіскапа Язафата Кунцэвіча, калі той у 1618 годзе збіраўся прыехаць у Магілёў. Канечне, Багдан Собаль і сына выхаваў у праваслаўным духу. Спірыдон стаў актыўным сябрам магілёўскага праваслаўнага брацтва. Невядома, дзе ён атрымаў адукацыю, але веды ён меў добрыя, валодаў грэчаскай, лацінскай і нямецкай мовамі. Дакумент 1624 года называе Спірыдона “ректором школы могилевское”, значыць ён узначальваў школку магілёўскага брацтва. Вучыў ён — вучыўся і сам. Школа дала Собалю багаты вопыт настаўніцтва, і ён выпрацаваў сваю методыку навучання дзяцей грамаце, што, зрэшты, і спатрэбілася яму ў асветніцкай дзейнасці.

З Магілёва дзесьці пасля 1624 года Спірыдон Собаль пераехаў у Кіеў, дзе таксама ўзначаліў праваслаўную школку. Аднак Спірыдону хацелася большага, не славы, не багацця, а запаліць і свой каганец асветы. Друкаванне “писаний божественных” — вось што хацеў рабіць Спірыдон Собаль. А справа гэтая была і складаная, і клапатлівая, і выдаткаў патрабавала нямалых, а прыбыткаў небагата. Ды хіба дзеля прыбыткаў працавалі яны — друкары-асветнікі, часта ахвяруючы на кнігі і сваю маёмасць. Сям'я Сабалёў была не бедная і, пэўна, падтрымала Спірыдона. Падтрымаў Собаля і кіеўскі праваслаўны мітрапаліт Іосіф Барэцкі. Собаль заснаваў сваю друкарню, у якой у 1628 годзе і надрукаваў сваю першую кнігу “Лімінор, сірэч кветнік” візантыйскага пісьменніка Яна Мосха. Гэта быў зборнік маральна-павучальных апавяданняў, перакладзены на царкоўнаславянскую мову. За два гады працы ў кіеўскай друкарні Собаль выдаў яшчэ некалькі кніг, сярод якіх і “Апостал”. У 1630 годзе Спірыдон Собаль вяртаецца ў Беларусь. Беларускі шляхціч Багдан Статкевіч запрасіў яго ў Оршу для працы ў друкарні ў Куцеінскім манастыры.

Праца ў Куцейне была плённай. Адна за адной з друкарні выходзяць кнігі: “Псалтыр” (пад назвай “Брашна духоўнае”), “Буквар”, “Малітвы паўсядзённыя” (1631), “Часаслоў” (1632). Пэўна, галоўнай для сябе кнігай Собаль лічыў “Буквар”. У нейкай ступені Собаль як настаўнік разглядаў выданне навучальнага дапаможніка для авалодання граматай не толькі неабходнай, але і справай свайго гонару. Можна было пайсці лёгкім шляхам — перавыдаць ужо вядомыя “Азбукі” ці “Граматыкі”. Не, ён ствараe сваю методыку “учения детям начинающим чтению”, якая вызначалася прастатой у авалоданні. Методыку Собаля выкарыстаў маскоўскі друкар Васіль Бурцаў, які ўслед за беларускім асветнікам назваў сваю граматыку “Букваром”. Прынамсі, лічыцца, што Спірыдон Собаль упершыню ўжыў тэрмін “буквар”, але гэта не зусім дакладна. Яшчэ ў 1618 годзе ў Еўі ў друкарні Віленскага святадухаўскага манастыра пабачыла свет граматыка пад назвай “Буквар”. Аднак “Буквар” Собаля карыстаўся вялікім попытам і гэтая назва з цягам часу замацавалася за падручнікам па граматыцы. Такім чынам, Спірыдон Собаль як бы стаў “хросным бацькам” буквара.

Для беларускага асветніка важна было і выхаванне дзяцей у хрысціянскім духу, таму ў “Буквар” для чытання ён уключыў важнейшыя палажэнні хрысціянскай веры і малітвы.

Спірыдон Собаль выдатна разумеў значэнне друкарскага станка для пашырэння асветы і адукацыі народа. Друкар жадаў “типографию расширити”, каб можна было друкаваць многа “знаметных книг”. Толькі жыццёвыя абставіны не спрыялі Собалю. Верагодна, ягоны мецэнат Багдан Статкевіч не змог падтрымаць матэрыяльна просьбу “росширити” друкарню, і замест новых кніг Собаль павінен быў перавыдаваць свае ранейшыя “Лімінор”, “Апостал” і “Актоіх”. У 1635 годзе Спірыдон заснаваў друкарню ў Буйнічах, у якой выдаў “Псалтыр”.

Апошняй кнігай асветніка і друкара быў “Буквар языка славеньска”, надрукаваны ў Магілёве ў 1631 годзе, перапрацаваны і ўдасканалены варыянт першага выдання. Спірыдон яшчэ не ведаў, што працягваць кнігавыдавецкую працу ён не зможа, па-ранейшаму імкнуўся да рэалізацыі сваіх грандыёзных планаў. Асаблівыя надзеі ён ускладаў на Маскву — там друкаваная кніга была рэдкасцю і была вельмі патрэбная. Там ён мог знайсці належную падтрымку — і матэрыяльную, і маральную. Там можна было зрабіць шмат. У 1637 годзе Спірыдон Собаль разам з беларускімі купцамі пабываў у Маскве. Ён сустрэўся з маскоўскім друкаром Васілём Бурцавым. Бурцаў прызнаў вялікае майстэрства беларускага друкара і набыў у яго друкарскія прылады. Цікава, што Собаль атрымаў дазвол на продаж сваіх кніг, але, відаць, разыходзіліся яны дрэнна, таму на зваротны шлях ён пазычаў грошы ў Бурцава. І, тым не менш, Собаль не расчараваўся ў сваёй паездцы, верыў у свае сілы: і ў Маскве зможа наладзіць кнігадрукаванне. Не вагаўся. І вось у 1639 годзе Собаль паехаў у Маскву з высакароднай місіяй — друкаваць кнігі, навучаць “словалітному делу” і мовам, хацеў ён таксама скласці слоўнік лацінскай, нямецкай і грэчаскай моваў. Собаля затрымалі ў Вязьме, ў Маскве вырашалі яго лёс. Але рускаму цару не патрэбна была асвета. А кожнага высокаадукаванага чалавека з-за мяжы ў Маскве лічылі ератыкам. У Вязьму прыйшоў загад: “Государь указал того могилевца Спиридона Собаля из Вязьмы отпустить назад в Литву, а в Москву его отпущать не велел, чтоб в его ученье и в книгах смуты не было... и от него б, Спиридона, какая ересь не объявилася”. Собаль быў вымушаны вярнуцца ў Магілёў. Занадта шмат надзей ускладаў ён на працу ў Маскве, каб не перажываць з-за прыкрага непаразумення ягоных светлых памкненняў. Энергія ягоная ўгасла. Ён сыходзіць ад свецкай мітусні ў Кіева-пячорскі манастыр.

Аднак слава друкара ўжо абляцела свет. З далёкай Валахіі запрашалі Спірыдона Собаля друкаваць там кнігі. І нямалады ўжо друкар у 1645 годзе выбраўся ў шлях, ехаў рабіць тое, дзеля чаго і жыў — друкаваць кнігі. Толькі жыццё не адпусціла яму лішніх гадоў. Спірыдон Собаль “печатник писаний божественных” памёр напрыканцы таго ж 1645 года. Закацілася яшчэ адна зорка беларускай культуры, але святло яе было пуцяводнае — яно ўказвала шлях да асветы, дабрыні і любові.

**Вітаўт ЧАРОПКА**

# І ЎСЁ Ж ТАКІ — ДЗЕ НАРАДЗІЎСЯ АДАМ МІЦКЕВІЧ?

Адкрываю шматлікія беларускія даведнікі, энцыклапедыі і шукаю там, што гаворыцца пра месца нараджэння знакамітага нашага земляка.

Раней гэтыя выданні пісалі толькі пра хутар Завоссе, зусім нядаўна пачалі ўпамінаць пра Навагрудак і Асавец.

Шчыра скажу, гэтым яны збядняюць варыянты загадкі месца нараджэння нашага выбітнага суайчынніка. І яшчэ, унікальнае польскае шматтомнае выданне — “Хроніка жыцця і дзейнасці Адама Міцкевіча”, акрамя Завосся, Навагрудка і Асаўца, на аснове дакладных гістарычных звестак і сведчанняў сучаснікаў паэта піша аб магчымым яго нараджэнні ў Выгадзе і ў Літоўцы...

Сёння ўпершыню ў беларускім друку поўнасцю даецца месцазнаходжанне гэтых населеных пунктаў і адгадка назваў іх. А дапамогуць нам у тапанімічных росшуках “Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы” (1996), кніга І.Яшкіна “Беларускія геаграфічныя назвы. Тапаграфія. Гідралогія” (1971) і іншыя выданні.

**1. Асавец**

Раней гэта была вёска са сваёй карчмой пад Навагрудкам, потым яна злілася з самім горадам. Слова мае два значэнні: ссунутая зямля па беразе, на адхоне; месца, якое зарасло асіннікам, багатае на грыбы асавікі.

**2. Выгада (Баранавіцкі раён)**

Гэтая мясціна знаходзіцца ля вёскі Медзяневічы, побач шыльда з назвай “Вызарак”, зараз ніякага жытла няма. Найменне вельмі цікавае і яно абазначае прыволле, добрае прыроднае для жыцця месца, раскошу.

**3. Завоссе (Баранавіцкі раён)**

Хутар меў раней назву Завоссе-Калдычэва. Зараз тут ствараецца сапраўдны музей-комплекс паэта. Побач вёска Завоссе, населеныя пункты Калдычэва і Медзяневічы. Назва да канца не вытлумачана. Таму даю толькі меркаванне, пачутае мною ад мясцовага жыхара. “Вось” абазначае шпень ці тонкі вал, на якім трымаюцца колы вазоў, часткі машын або механізмаў. Як ён казаў, калісьці ля вытокі стаяла кузня, на якой рабілі гэтыя восі, а людзі гаварылі: “Пайдзем, пайдзем за восямі...”. Потым і панскі фальварак, пабудаваны на яе месцы, займеў назву Завоссе. А калі побач узнікла вёска, дык гэтае найменне перайшло да яе. Так ці не? Цяжка сказаць...



**4. Літоўка (Навагрудскі раён)**

Вёсачка з возеркам побач з Навагрудкам. Тут, як мне здаецца, адгадка простая: від касы з доўгім палатном і высокім касільнам. Некалькі гадоў таму ў Баранавічах туркі будавалі новы мікраён Тэксер, дык нейкі прадпрымальны баранавічанін больш 2-х месяцаў гандляваў гэтымі літоўкамі, на ўласныя вочы бачыў, як адзін турак прыдбаў 12 такіх кос!

**5. Навагрудак**

Упершыню горад упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе. Навагрудак — гэта Новы гарадок. Зараз ён мае больш польскае гучанне і напісанне.

* * *

Падводзім вынікі. Мы маем пяць мяркуемых месцаў нараджэння Адама Міцкевіча. Усе гэтыя версіі ўзніклі толькі дзякуючы сведчанням, але сапраўдных дакументаў на гэты конт няма. Найбольш слабае месца — Завоссе. Чаму? Бо фальварак (толькі палова) стаў уласнасцю бацькоў Міцкевіча пасля нараджэння Адама. Хто вылучыў версію пра Завоссе? Малодшы брат паэта Аляксандр. Але ён аніяк не мог быць сведкам, бо яго тады яшчэ не было...

**Міхась МАЛІНОЎСКІ**
*Баранавічы*

# ВЫПРАБАВАНЫ НЕБАМ

Я бачыў шмат Герояў Савецкага Саюза, некаторых ведаў, з некаторымі сустракаўся з прычыны сваёй прафесіі. Яны па-рознаму ставіліся да славы і вядомасці, не ўсе вытрымлівалі цяжар Зоркі.

Марк Лазаравіч Галай насіў сваю Зорку вельмі натуральна, нібыта нават і "не заўважаючы" яе на сваіх грудзях. Гэта ўзнагарода нічога не дадала да ягоных чалавечых якасцяў, бо яна была не "мэтай жыцця", а вынікам ягонай няпростай працы. А ён як быў, так і застаўся да апошняга свайго дня чалавекам, у прысутнасці якога людзям хацелася быць лепш.

Шмат гадоў таму, калі Марк Лазаравіч зрабіўся для мяне больш, чым проста знаёмым, я патэлефанаваў яму ў Маскву і нясмела запрасіў прыехаць у Мінск, каб узяць удзел у маёй тэлеперадачы пра гераізм. Шчыра кажучы, я не разлічваў на "станоўчае вырашэнне пытання": вельмі ўжо заняты быў гэты чалавек — кансультант Камітэта па касманаўтыцы, член шматлікіх сур'ёзных камісій, навуковец, актыўна працуючы пісьменнік... Але нават малога шанца мне не хацелася ўпусціць. І раптам такі адказ: "Я з задавальненнем прыеду, тым больш, што з Беларуссю мяне шмат што звязвае і яшчэ жывыя сябры ваенных гадоў. Ды і сустрэча з Быкавым і Адамовічам — вялікая радасць для мяне... Але вы павінны папярэдзіць кіраўніцтва вашага ТБ, што я — вядомы ў краіне "дэгераізатар". Як бы ім не нажыць непрыемнасцей". ("Дэгераізатарства" Галая робіцца зразумелым, калі ведаць ягонае выказванне: "Калі хто-небудзь на зямлі робіць памылку, лётчык у небе вымушаны здзяйсняць подзвіг".)

Кіраўніцтва беларускага ТБ вырашыла рызыкнуць. Паглядзець на знакамітага пілота збеглася ўсё тэлебачанне. Перадача, у якой удзельнічаў Галай і аўтар гераічных народных эпапей пісьменнік Іван Чыгрынаў, прайшла "на ўра". А пасля працы мы ўсе паехалі да мяне ў невялікую кватэру на бульвары Шаўчэнкі. Высокіх гасцей сустракала ўсхваляваная жонка і — у далёкім канцы вузкага "хрушчоўскага" калідора — наша пяцігадовая дачка. Марк Лазаравіч, імгненна зразумеўшы стан гаспадыні, пацалаваў яе руку і, зухавата цокнуўшы абцасамі, вымавіў: "Поручнік войска польскего — Марк Галай!" Зняўшы напружанне гэтым цыркавым нумарам, ён прайшоў у калідор, вызваляючы месца чарговаму госцю, і раптам убачыў пяцігадовую дзяўчынку з бантам. Яна шырока адкрытымі вачыма глядзела на высачэзнага дзядзьку — метр дзевяноста два! — "нестандартны лётчык" — і нават не на ўсяго дзядзьку, а на бліскучую зорачку на левым штрыфелі ягонага шэрага пінжака — Зорку Героя... І тут адбылося тое, дзеля чаго я пішу гэтыя радкі ў сумным, развітальным слове пра блізкага і дарагога мне чалавека.

Галай — неверагодны Герой, які выпрабаваў 125 тыпаў самалётаў, чалавек, знаёмы з Чэрчылем і бельгійскай каралевай, Чкалавым і Каралёвым, вядомы пісьменнік, інструктар першых савецкіх касманаўтаў, пілот, які збіў першы нямецкі бамбардзіроўшчык над Масквой — гэтая жывая легенда, прысеўшы на кукішкі перад дзяўчынкай, папытаўся, паказваючы на сваю Зорку: "Хочаш патрымаць?" Дзяўчынка кіўнула. Марк Лазаравіч адчапіў найвышэйшую ўзнагароду краіны і, прымацаваўшы іголку такім чынам, каб дзіця не пакалолася, паклаў важкае золата сваёй завоблачнай працы на дзіцячую далоньку: "Толькі не згубі", — падняўся і ўвайшоў у пакой, дзе быў накрыты "пажарны" стол узору 1978 года.

Такога Героя да Галая я не бачыў. І, напэўна, больш не ўбачу. І яшчэ адна дэталь таго вечара. Галай да таго часу ўжо не піў гарэлкі. "Дактары забаранілі, а медыцыну трэба паважаць", — растлумачыў ён мне, калі мы на хвілінку засталіся сам-насам. Але ўвесь вечар ён узнімаў чарку з вадой, імітуючы актыўнасць, каб не бянтэжыць іншых і не перашкаджаць ім. І ўвесь вечар па-майстэрску распавядаў анекдоты і байкі з пілоцкага жыцця. Праз шмат гадоў, сустракаючыся з удзельнікамі гэтай бяседы, мы ўзгадвалі той вечар...

Яго традыцыйна запрашалі ў якасці ганаровага госця на з'езды беларускіх пісьменнікаў. Сяброўствам з ім ганарыліся вялікія людзі. Ягонае прозвішча стала сімвалам мужнасці, гонару, годнасці. Пра яго складалі кнігі і артыкулы ў энцыклапедыях, яго ведалі і паважалі пілоты ўсяго свету. Ні разу ў сваім жыцці ён не зрабіў учынку, ад якога потым "трэба" было б адмаўляцца.

Калі яго толькі з прычыны таго, што быў габрэем, загадам міністра звольнілі з пасады, якая зрабілася сэнсам ягонага жыцця, — ён не перастаў быць тым Галаем, якім быў, — уладальнікам найвышэйшых чалавечых якасцяў. І такога яго "самавольна" ўзяла на працу ў сваю лётную "гаспадарку" таксама Герой Савецкага Саюза, высакародная руская жанчына Валянціна Грызадубава: "Перадайце міністру, што гэта я парушыла ягоны загад, бо я з Галаем ваявала і веру яму, як сабе".

Біяграфіі герояў не бываюць бязвоблачнымі. Смерць пільнавала яго ўсе доўгія гады ягонай небяспечнай працы. Ён не хаваўся ад яе — ён яе перамагаў. Не толькі ў небе... З невычэрпным гумарам і лёгкай самаіроніяй пісаў ён мне ў лістах пра чарговую рэанімацыю або клінічную смерць. У ягоным жыцці былі каханне, сябры, мужчынская праца, прызнанне, павага людзей і вялікая вядомасць. У ягоным жыцці былі ліхалецце вайны, пахавальная з фронту, дзе ён "загінуў смерцю храбрых, як герой" (а ён, збіты, дабіраўся ў гэты час да беларускіх партызан), горкія дні "касмапалітызму", зайздрасць вялікага кіраўніцтва і паскудства дробных людзей... Мяняліся часы, ішлі гады, а ён і ў радасці, і ў горы заставаўся Галаем. Ён казаў пра Каралёва, што той быў чалавекам-каркасам. Але і сам Галай быў такім. Я адзін з тых, хто дваццаць гадоў адчуваў трываласць і моц гэтай асобы. Ён быў незвычайны ў сваёй мужчынскай дабрыні і клапатлівасці, я б нават сказаў, пяшчоце...

У мяне захоўваюцца ягоныя лісты. Кожны з іх — закончаны літаратурны твор. Перачытваючы іх, я ўсё яшчэ не магу ўсвядоміць, што быў для яго "кімсьці" і не магу адказаць на пытанне: чаму ён так шчодра дарыў мне сваю ўвагу і час... Мне не забыцца на тое, які ўдзел прымаў ён, вельмі заняты чалавек, у маім лёсе ў перыяд майго шматгадовага марафона падчас "паступлення" ў Саюз пісьменнікаў. Ён пісаў лісты і гутарыў пра гэта з Быкавым, Адамовічам, з тагачасным галоўнакамандуючым беларускай літаратуры Гілевічам. Ён чытаў мае кнігі ў рукапісах і дасылаў добрыя лісты-рэцэнзіі, заўважаючы пры гэтым: "Я не крытык, я толькі вопытны чытач". Пра сябе як пра пісьменніка казаў: "Вось напішу ўсё, што памятаю, — гэта і будзе маім зборам твораў". Прасіў прабачэння за сваю адзіную мастацкую кнігу — "Паласа дакладнага прызямлення": "Пачаў пісаць чарговую дакументальную рэч, а калі над пісьмовым сталом развеяўся дым, я зразумеў, што атрымалася аповесць". І гэта казаў чалавек, якога ў літаратуру "прывялі" Казакевіч і Твардоўскі.

... Ён быў адзіным, лісты да якога я пісаў з чарнавіком: вельмі хацелася адпавядаць ягонай увазе...

Не было выпадку, каб ён не адказаў на мой ліст.

Пра ягоную смерць я даведаўся праз месяц: мяне не было на Беларусі. Я патэлефанаваў ягонай удаве, Ксеніі Вячаславаўне, і здолеў толькі прадставіцца... Нават ёй не змог сказаць, што я адчуваў і колькі ў маім жыцці было звязана з яе мужам, які столькі гадоў дарыў мне сваё сяброўства.

Аказалася, што апошні ў ягоным жыцці ліст быў адрасаваны мне... У адказ на мае "скаргі" на цяжкасці эміграцкага жыцця, ён у чарговы раз падставіў мне сваё надзейнае плячо і яшчэ раз дакладным "галаеўскім" почыркам мудра, абсалютна лагічна і вельмі цёпла давёў, што жыццё "цудоўнае і незвычайнае" яшчэ і таму, што ў ім ёсць усё, і толькі ад нас залежыць, што зрабіць сваім, а што — не. Ён прасіў (!) прабачыць яго (!) за "маралізацыю", маўляў, узрост ужо такі — 84 гады.

Мне запомніўся ягоны сказ з гэтага ліста пра тое, што надышоў час развітання з сябрамі, і назваў Акуджаву і Нікуліна... "Я разумею: змена пакаленняў — адны адыходзяць, іншыя прыходзяць. Але ўся справа ў тым, што адыходзяць дарагія і блізкія, якіх я ведаў, а нараджаюцца незнаёмыя. Змена натуральная, але нераўнацэнная".

Праз месяц ён памёр. Толькі аднойчы не выканаў абяцання: мы дамовіліся на пачатку восені сустрэцца ў яго ў Маскве... Я не хачу гаварыць пра той унёсак, які ён зрабіў у развіццё авіяцыі, у навуку, касманаўтыку, літаратуру, — я хачу сказаць, што ён быў мне блізкім і дарагім і што ягоная смерць — непапраўная страта не толькі для мяне: сярод знаёмых мне людзей няма тых, у каго пры ўзгадванні імя Галая не святлеў бы твар.



Дваццаць гадоў таму я зрабіў з ім першае інтэрв'ю. Прачытайце яго разам са мной і памаўчыце адну хвіліну: пайшоў Чалавек планеты Зямля, Чалавек, выпрабаваны небам. Застаўся Прыклад і вечная, светлая Памяць.

**Навум ЦЫПІС**

**— Марк Лазаравіч, вы — заслужаны лётчык-выпрабавальнік СССР, узнагароджаны званнем "Герой Савецкага Саюза"; вы — доктар тэхнічных навук і вы — пісьменнік: вашыя кнігі выдаюцца і перавыдаюцца ў нас і за мяжой. Як вам удалося ўсё гэта спалучыць?**

— Вы памыляецеся, калі лічыце, што ў мяне тры прафесіі. Я — лётчык-выпрабавальнік. Усё астатняе вырасла з гэтага.

**— Пачнём з лётчыка-выпрабавальніка.**

— Яшчэ ў дзяцінстве я пачаў клеіць мадэлькі, потым лётаў на планёры, прыгаў з парашутам... Маё юнацтва супала з заклікам таго часу: "Ад мадэлі — да планёра, з планёра — на самалёт!" Так, у поўнай адпаведнасці з заклікам, у мяне і атрымалася. Гэта быў адзін з нямногіх выпадкаў, калі мой шлях аказаўся простым, як сам гэты заклік. Далей у жыцці было больш складана...

**— За што вы атрымалі званне "Герой Савецкага Саюза"?**

— За выпрабавальніцкую працу.

**— Якія ўрадавыя ўзнагароды вы маеце?**

— Дзевяць ордэнаў і медалі. Дарэчы, калі мы ўжо закранулі "ўзнагародавую" тэму... Вы не заўважылі цікавага супадзення... За што былі нададзены першыя званні Героя Савецкага Саюза?

**— За выратаванне чалюскінцаў.**

— А за што Грыцавец першым атрымаў другую Залатую Зорку?

**— За выратаванне свайго камандзіра Забалуева.**

— Мне хочацца бачыць у гэтым не толькі супадзенне: званне "Герой Савецкага Саюза" і ўпершыню, і ў другі раз было нададзена за выратаванне людзей. Сама аснова гэтага звання гуманная.

**— Распавядзіце пра самы трагічны і самы камічны выпадкі з вашага жыцця.**

— Мне здаецца, што падобныя пытанні збядняюць і таго, хто пытаецца, і таго, хто адказвае.

**— Пытанне можна змяніць. Раскажыце пра выпадак, які вам запомніўся.**

— Ну, гэта ўжо лягчэй... Выпадкаў, фактаў, здарэнняў у жыцці шмат і самых розных. Але гаварыць пра іх наўрад ці варта. Іншая справа — іхні маральны, этычны бок. Вось з гэтых пазіцый я і раскажу пра адзін выпадак.

Лётчык, мой калега, выпрабоўваў матор. Ён ужо ляцеў да аэрадрома, калі заўважыў невялікія адхіленні тэмпературы і ціску. Адразу выключыўшы матор, ён пачаў набліжацца да аэрадрома, але зразумеў, што не дацягне да яго некалькі соцень метраў. Яму варта было секунд на дзесяць уключыць матор — і самалёт даляцеў бы да пасадачнай паласы. Але за гэты час першапачатковыя пашкоджанні ў маторы могуць знікнуць сярод новых, і слабое месца канструкцыі застанецца загадкай. Праўда, лётчыка ніхто не змог бы абвінаваціць. Мала таго, пра ўключэнне матора і ведаць ніхто не будзе... А калі пасадзіць машыну, не даляцеўшы зусім трошкі да аэрадрома з прыбранымі шасі, — аварыйная камісія, тлумачэнні, вышук, яшчэ нешта...

Лётчык пасадзіў машыну "на пуза". І даў канструктарам магчымасць хутка знайсці дэфект матора... Але сваю частку непрыемнасцей за гэта ён атрымаў.

**— Многія палёты лётчыкаў-выпрабавальнікаў, падчас якіх здараюцца нечаканасці, называюць гераічнымі. Як вы да гэтага ставіцеся?**

— Наш калега, выдатны лётчык-выпрабавальнік Рыгор Аляксандравіч Сядоў сказаў аднойчы: "Калі лётчык, выпраўляючыся ў палёт, лічыць, што ідзе на подзвіг, значыць, ён не падрыхтаваны да палёту". Лепей на гэтае пытанне не адкажаш.

**— А як вы прыйшлі ў навуку?**

— Увогуле, даволі лагічна: калі працягнуць лозунг, пра які мы ўжо казалі: "... ад самалёта (альбо разам з ім) — да навуковых даследаванняў". Праца лётчыка-выпрабавальніка — праца творчая, у ёй заўсёды прысутнічае момант даследавання. Кандыдацкая работа, якую я абараніў у 1952 годзе, і была, па сутнасці, працягам лётнай практыкі — абагульненнем думак наконт бакавой устойлівасці самалёта.

**— З вашай доктарскай дысертацыяй навуковая Рада таксама пагадзілася?**

— Так, але не ўсе яе члены. З дзевятнаццаці адзін быў супраць. Аднак мяне гэта не засмуціла. Калі з чалавекам заўсёды і ўсе пагаджаюцца, значыць, ён выказвае зусім трывіяльныя думкі.

**— І, нарэшце, вашая літаратурная дзейнасць. Як і з чаго яна пачыналася?**

— З таго, што, ведаючы працу выпрабавальнікаў, шмат гадоў маючы шчыльныя стасункі са сваімі таварышамі, людзьмі цікавымі, я адначасова сутыкаўся з грунтоўна памылковымі ўяўленнямі пра іх і іхнюю працу. "Разрыў" атрымліваецца вялікі. Вось я і вырашыў распавесці, як ёсць на самай справе. Пачалося гэта ў 1959 годзе, і аказалася справай даволі цяжкай (лёгка працаваць за пісьмовым сталом я так і не навучыўся).

Мне пашчасціла: я пачаў друкавацца ў часопісе "Новый мир". Атмасфера ў калектыве, стаўленне да аўтара — усё гэта складвалася, фармавалася пад уплывам Твардоўскага. Пра яго можна казаць шмат, але рабіць гэта трэба асобна.

**— Ці карысталіся вы парадамі пісьменнікаў-прафесіяналаў?**

— Не. Я не веру ў кансультацыі і парады ў літаратурнай справе. Калі вы мне раіце — гэта значыць, што вы гэтак зрабілі б на маім месцы. Але на маім месцы — я. І кожная ваша парада — гэта "сабе". У літаратуры, як нідзе, адзін у полі воін.

# ЗНОЎКУ ПАКЛІКАЎ ЗВАНКОМ СВАІМ ВЕРАСЕНЬ

Кожны з нас можа параўнаць сваё жыццё з хуткім цягніком. Адлічваючы гады, як кіламетры, ён шпарка імчыць наперад, а за вокнамі ягонымі мільгаюць, застаючыся ў нашай памяці альбо, наадварот, знікаючы з яе бясследна, — радасці і нягоды, сустрэчы і расставанні, захапленні і расчараванні. І адпраўляемся мы ў далёкі, не заўсёды лёгкі, але такі прывабны свой нязвыкласцю шлях са станцыі, назва якой — школа.

Будуць наперадзе прыпынкі і раз'езды, будзе зялёнае і чырвонае святло семафораў, зазіхацяць агнямі новыя станцыі, але гэтая — станцыя адпраўлення — зноў і зноў будзе клікаць назад, у незабыўныя школьныя гады.

І тыя юнакі, і дзяўчаты, якія прыйшлі вераснёўскім ранкам у кабінеты і аўдыторыі школ і вучэльняў, тэхнікумаў, ВНУ, — таксама школьнікі. Толькі школьнікі са "стажам", цягнік жыцця якіх ужо адлічыў першыя кіламетры, пакінуў ззаду першыя перагоны.

Добра, што на шляху гэтым дзяцей нашых суправаджаюць людзі, якія натхненнем сваім, шчодрасцю духоўнай жывяць маладыя душы, клічуць да новых і новых станцый на бясконцай дарозе пазнання.

... Зноўку паклікаў званком сваім верасень. Паклікаў у добры шлях, на якім няма і не будзе прыпынкаў.

**Валерый ШЫХАНЦОЎ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**



ЗАМЕСТ КРОПКІ



# АПОШНІ ДЗЕНЬ ЛЕТА

Бывае, хочацца, каб цябе заўважылі. Асабліва, калі ты прынёс многа радасці і весялосці. Толькі людзі не заўсёды гэта разумеюць. Яны імчаць насустрач новаму і ў паўсядзённай мітусні не заўважаюць нават таго, што ты з імі развітваешся. Назаўсёды.

Ён стаяў адзінока ля парога. Проста хацеў развітацца. Толькі ўсе раптам адвярнуліся. Заўтра будзе новы Дзень.

Няўпэўнена пераступаючы з нагі на нагу, ён адчуваў сябе няўтульна ў лёгкай вопратцы. Дзень выдаўся халаднаваты, сонейка няпэўна выглядала з-за хмар, быццам развітваючыся. Накрапваў дробны дожджык.

Зноў спрабуючы звярнуць на сябе ўвагу, злёгку кашлянуў. Усё роўна на яго ніхто не паглядзеў.

Засмучана ўздыхнуў і пайшоў... Дождж бязлітасна хвастаў стомленага вандроўніка на яго дарозе да Вечнасці...

Пахмурнае неба дыхала холадам. Не давала прайсці ні аднаму праменьчыку надзеі. Надышоў вечар.

Вандроўнік, якога завуць Лета. Гэта быў ягоны апошні дзень.

**Анжэла БОРТНІК**
**Фота Аляксандра ГІРЭЛЯ, студэнта БелАМ.**

## ПА ГАМБУРГСКІМ РАХУНКУ

У школах многіх федэральных земляў пачаўся новы навучальны год. А вось сезон адпачынкаў яшчэ не скончыўся. "Падумаеш, нейкіх два-тры дні!" — лічаць некаторыя бацькі — і бяруць дзяцей з сабой у паездку падчас вучобы. Фактычна дзіцяці даводзіцца прапускаць школу толькі таму, што так вырашылі тата з мамай.

А між тым адсутнасць на занятках у школе без адпаведных прычын караецца ў Германіі даволі строга: вінаватыя могуць быць пакараны не толькі вялікімі грашовымі штрафамі, але і... пазбаўленнем волі! Да прыкладу, гамбургскі Закон аб школе на выпадак, калі бацькі сістэматычна перашкаджаюць навучанню дзіцяці, прадугледжвае штраф у памеры да 180 сярэдніх дзённых заробкаў або пазбаўленне волі на тэрмін да 6 месяцаў.

## ЦІ ВЫРАТУЮЦЬ ХІМІКІ "ЎСХОДНЮЮ ГАЛЕРЭЮ"?

Берлінская сцяна. Паводле планаў яе будаўнікоў, яна павінна была ўзвышацца, падзяляючы людзей, як мінімум, сто гадоў. На шчасце, планы гэтыя аказаліся няздзейсненымі: ужо праз 28 гадоў сцяна знікла, як знікла і мяжа паміж Усходнім і Заходнім Берлінам. Застаўся толькі адзін кавалак сцяны даўжынёй у некалькі соцень метраў на беразе Шпрэе, непадалёк ад галоўнага вакзала.

Участак гэты аздоблены велізарнымі карцінамі ста васемнаццаці мастакоў, якія прыехалі з розных краін свету ў нядаўна ўз'яднаны Берлін у 1990 годзе. 101 карціна прадстаўлена ў гэтай карціннай галерэі на вольным паветры, адзінай у свеце падобнага кшталту. Падчас афіцыйнага адкрыцця яна атрымала назву East Side Galery ("Усходняя галерэя"). На жаль, нягледзячы на тое, што яшчэ ў 1991 годзе галерэя была ўзята пад ахову як помнік гісторыі, яе існаванне знаходзіцца пад пастаяннай пагрозай. Фарбы на карцінах пад уздзеяннем сонечных промняў і дажджу паступова знікаюць, бетон літаральна распаўзаецца пад ціскам іржавай стальной арматуры. Як выратаваць галерэю? Усталяваць для яе дах альбо схаваць пад шкло? Дыскусіі на гэтую тэму доўжацца гадамі і, на жаль, вынікаў не даюць. У 1995 годзе берлінскі Сенат прыняў рашэнне рэстаўраваць галерэю. Аднак неабходных для гэтай мэты 23 мільёнаў нямецкіх марак выдаткавана не было, і рашэнне засталося на паперы, якая, як вядома, усё стрывае.

Тым часам насценны жывапіс East Side Galery ўсё часцей робіцца аб'ектам вандалізму. У апошні раз тут "папрацаваў" "мастак" Аляксандр Брэнер, які марыць пра славу Герастрата. Разам са сваёй "калегай" Барбарай Шульц ён проста запэцкаў шэрай фарбай адно з самых вядомых палотнаў сцяны — "Vaterland" ("Айчына"). Аўтар карціны Гюнтэр Шэфер вымушаны цяпер узяць у рукі пэндзлі і фарбы, узлезці на драбіны, каб узнавіць свой твор. "Я раблю гэта ў дваццаты і цяпер ужо ў апошні раз, — гаворыць мастак. — Палітыкі абсалютна не цікавяцца захаваннем East Side Galery. Я не магу ўсё сваё жыццё прысвяціць адной карціне". На гэты раз фірма "Loba" падарыла Шэферу спецыяльны раствор, што ўтварае асаблівае, празрыстае пакрыццё. Яно павінна, паводле задумы хімікаў, якія вынайшлі ягоную формулу, абараніць твор Шэфера ад новых нападаў варвараў. Будзем спадзявацца, што гэта дапаможа...

## ЖАНЧЫНЫ НАРАДЖАЮЦЦА РАМАНТЫЧНЫМІ

Вялікая схільнасць жанчын да рамантычнага ўспрымання свету ў чарговы раз пацвердзілася на конкурсе любоўных лістоў, наладжаным укермюндскім ініцыятыўным рухам "У абарону эпісталярнага жанру". 279 пасланняў з Германіі, Аўстрыі, Польшчы і Амерыкі атрымала міжнароднае журы. 80 працэнтаў з іх — ад прадстаўніц жаночай паловы чалавецтва. Для вызначэння пераможцы ацэньваліся змест, форма выкладання і "дадатковае афармленне" (малюнкі, аплікацыі, размяшчэнне тэксту на паперы і г.д.). Першае месца дасталося 25-гадовай жыхарцы Ростака, другое — 15-гадовай польцы. Ганар мужчын спрабавалі адстаяць 20-гадовы закаханы з Нойбрандэнбурга, які заняў трэцяе месца. Асаблівым прызам сімпатый журы быў адзначаны ліст 9-гадовай дзяўчынкі. "Мужчыны ўвогуле не любяць пісаць лісты, а ўжо любоўныя пасланні ўяўляюць для іх надзвычайную складанасць" — лічыць старшыня журы пан Экхард Далазе. Напэўна, асаблівасцю мужчынскай псіхалогіі можна лічыць няздольнасць выказаць свае пачуцці на паперы. А можа, жанчыны сапраўды нараджаюцца больш рамантычнымі і адкрытымі істотамі?

**Па матэрыялах замежнага друку.**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
Выдаецца з кастрычніка 1991 года
Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК), вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон/факс: (017) 276-94-66

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца. Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі. Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3427.

Падпісана ў свет 03.09.97. у 17.00.

Замова 5267.

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку". 220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**